


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

26 снежня 2003 года

№ 52 (453)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

17 каналаў ТэлетыДзень

**Навіны рэгіёну**



*Дарагія чытачы!*

*Сардэчна віншуем усіх вас з надыходзячым Новым годам. Няхай прынясе ён у кожны дом, кожную кватэру толькі радасць, шчасце і ўдачу, споўніць мары, падорыць надзею на лепшае. Будзьце зайсёды ў добрым настроі, моцнымі духам. Жыццёвай мудрасці вам і здароўя!*

*Ваша "Рэгіянальная газета".*

## Паклапаціліся

МЯДЗЕЛ. Звенні па абслугоўванню сельскіх населеных пунктаў ствараюцца ў Мядзельскім раёне на базе былой «Сельгасхіміі», пры якой працавала піларама. Яе і мяркуюць выкарыстаць для абслугоўвання вяскоўцаў – каб не шукалі, дзе заказаць штыкетнік альбо дошкі. Можна будзе заказаць і іншыя паслугі – ускапаць агарод ці падрамантаваць хату.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

## Юбілярка

ВІЛЕЙКА. Сто гадоў споўнілася жыхарцы Ільі Варвары Мамай. Сюды яна пераехала нядаўна да дачкі. Да гэтага часу жыла і працавала ў Вайдзенях. Варвара Мікалаеўна ў гады вайны была партызанскай сувязной, потым працавала паштаркай. Нарадзіла пяцёра дзяцей, мае дзесяць ўнукаў і 21 праўнука.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

## Абакралі «Сняжок»

СМАРГОНЬ. Прыватны магазін у вёсцы Солы абабралі невядомыя зламыснікі. У гандлёвы пункт, які носіць назву "Сняжок", яны праніклі пад покрывам ночы і, напоўніўшы сумкі халвой, пячэннем, цукеркамі і іншымі ласункамі, зніклі. Пошукамі злачынцаў займаецца міліцыя.

**Галіна АНТОНАВА.**

## Купілі «Акватоны»

ВАЛОЖЫН. Аўтаматычныя станцыі абезжалезвання вады "Акватон" з'явіліся напярэдадні новага года ў сярэдніх школах №1 і №2 райцэнтра. Яшчэ раней аналагічныя ўстаноўкі прапісаліся ў дзіцячым садку №5 і мясцовай гімназіі. Такім чынам раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя вырашае праблемы якаснай пітной вады, з якой у Валожыне цяжка.

**Марына СЛІЖ.**

# Час у яе руках



**Маладзечанка Вольга Герасімава працуе майстрам па рамонту гадзіннікаў. Усім чытачам "Рэгіянальнай газеты" яна жадае шчаслівага Новага года.**

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі прыходзіць Новы год? У момант, як стрэлкі гадзінніка сыдуцца апоўначы на лічбе 12. Ваш спяшаецца альбо спазняецца? Тады, каб не прапусціць доўгачаканае свята, самы час завітаць да майстра, што і зрабіла "Рэгіянальная газета".**

"Адрэгуляваць" наш гадзіннік узялася Вольга Герасімава, спецыяліст з 24-гадовым стажам работы, што працуе ў ААТ "Фабрыка "Бярозка". Ды не адна, а з дачкой Ганнай, якая прамудрасцям работы вучылася ў сваёй маці. Пашукаць настаўніка лепшага, наўрад ці знойдзеш. Амаль за чвэрць стагоддзя працы ў гэтай сферы Вольга не змагла адрамантаваць гадзіннік тройчы. Да аднаго не было камплектуючых, два астатнія працавалі ў майстэрні і адмаўляліся на руцэ гаспадароў. "Ні тэхнікумаў, ні інстытутаў я не заканчвала, — расказвае жанчына. Прыйшла ў калектыў Маладзечанскай рамбыттэхнікі і стала вучаніцай Аляксандра Салаўёва. Навука ішла не сказаць каб туга. Праз шэсць месяцаў атрымала трэці разрад. Але ўсе прамудрасці работы спасцігла толькі праз пяць гадоў. Тады і зразумела, што ў гадзінніка бывае каля 10 "хвароб". Справіцца з якімі не так лёгка".

Рамантуюць Герасімавы ў асноўным механічныя гадзіннікі. У дзень нашага наведвання майстэрні толькі будзільнікаў, у якія ўдыхнулі жыццё, стаяла два дзесяткі. Самаму старэйшаму з іх, яшчэ даваеннаму, як расказала майстар, прыкладна 60 гадоў. "За гэты час, — разважае жанчына, — можна было не адзін раз памяняць яго на новы. Але чалавеку, які прынёс яго ў рамонт, гэта рэч дарагая як памяць".

Даведалася ад Вольгі Васільеўны яшчэ адну цікавую рэч. Аказалася, што ў механічных наручных гадзіннікаў, дата выпуску якіх прыходзіцца на 60-80-я гады, няма тэрміну выпрацоўкі. Спыніцца адзін з механізмаў, аддасць іх гаспадар у майстэрню і..., карыстаецца пасля рамонту сабе далей.

Сама Вольга Васільеўна гадзіннік не носіць. Надзявае яго на руку толькі ў выпадку, калі едзе ў далёкую дарогу. Для гэтых мэт на палічцы ў секцыі ляжыць у яе гадзіннічак "Чайка". Гадзіннік маленькі, але зручны. На кухні падказвае час будзільнік "Слава", а ў прыхожай, калі спяшаецца на работу, заўсёды падымае вочы на "сімвал гадзіншчыка і шафёра". Сканструявалі яго Вольга разам з мужам, калі той яшчэ працаваў вадзіцелем. Гадзіннік круглы, зразумела з цыферблатам і клаксанам у цэнтры".

Цік-так, цік-так, адмяраюць час ходзікі, якія набліжаюць нас да Новага года. Напярэдадні свята Вольга Герасімава жадае ўсім чытачам газеты размеранага і спакойнага жыцця.

**Марына СЛІЖ.**

### Па старонках «РГ» 2003 года



Жыхар вёскі Краснае Анатоль Казакевіч сканструяваў дэльтаплан.

4-5-я старонкі

### Шчасце — круглы год

Калі бусел звіў гняздо непадалёк ад дома – шчасце яго не пакіне 7 гадоў.

8-я старонка

### Шчодрым вечарам

Даўно змяніўся наш быт, умовы жыцця. Але гэта не азначае, што мы можам абязлічыць нашы святочныя застоллі, забыць звычаі продкаў.

10-я старонка

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Кошт навагодняга стала



**З чым асацыіруецца Новы год? Правільна: з ёлкай, Дзедам Марозам, падарункамі і... святочным сталом, на якім ледзь змяшчаюцца талеркі з рознай смакатой. У колькі такое багацце прадуктаў і страў абыдзецца сям'і сёлета? Зрабіць такі падлік і паспрабаваў карэспандэнт "РГ".**

### Закускі

Ну, з чаго пачнём? Давайце з усім добра вядомага набору прадуктаў для салата "Аліўе", абавязковым атрыбутам якога з'яўляецца кансерваваны гарошак. Паўлітровы слоічак яго абыдзецца нам у 1000-1100 рублёў, 300-400 грамаў варанай кілбасы выльюцца прыкладна ў 2000 тысячы рублёў, 250-грамовы пачак маянэзу "Правансаль" — 760-800 рублёў. Дададзім да ўсяго гэтага пяць яек, якія будуць каштаваць рублёў гэтак 800, кансерваваных агурочкаў, прынясём з падвала папярэдне нарыхтаваныя на зіму бульбу, моркву. Цяпер падлічым. Навагодняя салата "Аліўе" абыдзецца нам прыкладна ў 5 тысяч рублёў.

А паколькі адным салатам не абудзеш, пакладзём у сумку бляшаначку кукурузы (1100-1200 рублёў), печані траскі (1600-1650 рублёў) і наўмысна апусцім кошт крабавых палачак і іншых неабходных для салата інгрэдыентаў.

### Нарэзка

Пералік мясных прадуктаў пачнём з вэнджанай кілбасы, за якую на рынках Маладзечна просяць ад 9 да 14 тысяч рублёў за кілаграм. А каб ружовыя, тоненькія як скрылёчкі не ляжалі сіратліва на талерках, дададзім да іх балыка — 10500-10600 рублёў за такую ж колькасць, бекона альбо карбаната, 1 кілаграм якога цягне, адпаведна, на 6000 і 9800 рублёў.

### Садавіна, гародніна

Гаспадыні са стажам раяць свежыя памідоры, агуркі, апельсіны і бананы купляць загадзя. Па вопыту мінулых гадоў ведаюць, што 30-31 снежня цана на іх звычайна падымаецца. І як пацвярджэнне таму, расказваюць мінулагоднюю гісторыю пра Камароўскі рынак у сталіцы, дзе раніцай 31 памідоры каштавалі два долары за кілаграм, а днём – чатыры.

Прадпрымальнікі прагназуюць рост цэн на апельсіны, а таксама бананы, якое ж без іх свята, тым больш, што на парозе год Малпы. Пакуль што за першыя просяць 1950-2000 рублёў, за другія – 1500.

### Гарачыя стравы

У кожнай сям'і свае традыцыі. Адны аддаюць перавагу ў навагоднюю ноч свініне, з якой рыхтуюць розныя стравы, іншыя ялавічыне, кураціне. Кілаграм свіной лапаткі ў аўторак, 23 снежня, каштаваў на рынку 5500 рублёў. За такую ж колькасць кумпячкоў курыных прасілі 4400 рублёў, а кураняты бройлерныя абыходзіліся гаспадыням у 4500 рублёў.

### Выпіўка

У гэтай сітуацыі кожны, як кажуць, выбірае для сябе. Адны сем'і аддаюць перагу марціні, іншыя п'юць толькі віскі альбо віно. Але і тыя, і другія не абыдуцца ў навагоднюю ноч без шампанскага, адна бутэлька якога каштуе ў магазінах 5000 – 5160 рублёў, у залежнасці ад гатунку. Яно толькі на 500 рублёў даражэйшае за гарэлку, бутэлька якой цягне на 4500 рублёў.

Калі дарослыя будуць сустракаць Новы год з моцнымі напоямі, то дзецям абавязкова трэба купіць соку альбо газіраванага напітку. Усімі любімы "Сняжок" у паўтаралітровай пластыкавай бутэльцы каштуе сёння амаль што тысячу рублёў, а літровы пачак соку – 1800-2000 тысячы.

### Рыба

Каб год 2004 быў удалым, на стале абавязкова павінна стаяць рыба. Свежая, свежамарожаная альбо марынаваная, розніцы няма. Хіба што ў цане. За 1 кілаграм пеламіды свежамарожанай на рынку просяць 3100 рублёў, аргенціны — 3700, леманелы і пікшы — 3800. За такую ж колькасць селядцоў — 2500-2300 рублёў.

### Разам

Падлічыць кошт навагодняга стала не проста. Кожны накрые яго на свой густ ці па сродках. Але калі купіць сёння святочны набор прадуктаў, у якім будуць па паўкілі памідораў, агуркоў, а таксама па кілаграму бананаў, апельсінаў, мандарынаў, 2 пачкі соку, па бляшанцы гарошку, кукурузы, шпротаў, марынаваных грыбочкаў, маслінаў, па палцы вэнджанай кілбасы, кілаграму карэйкі, свініны, селядцоў, куранё, бутэльку шампанскага, бутэльку гарэлкі, то атрымаецца недзе каля 80 тысяч рублёў. Прыемных пакупак вам, і з Новым годам!

**Цэны вывучала Марына СЛІЖ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 18.12 руб. | 24.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2151,00 | 2154,00 |
| Еўра | 2654,23 | 2675,81 |
| Злоты | 571,39 | 575,40 |
| Літ | 768,41 | 775,10 |
| Расійскі рубель | 73,54 | 73,65 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2160/2170 | 2160/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 17.12 | 24.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13740 | 13740 |
| Сасіскі, 1 кг | 4690 | 4690 |
| Селядзец, 1 кг | 3000 | 3000 |
| Рыс, 0,9 кг | 900 | 900 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1450 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 540 | 600 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 850 | 1050 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 180 | 250 |
| Морква, 1 кг | 400 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 3000 | 3100 |
| Апельсіны, 1 кг | 2100 | 1950 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2100 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5200 |
| Тварог, 1 кг | 2300 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2500 | 2600 |
| Бульба, 1 вядро | 2400 | 2200 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

## Справаздача гурткоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйная творчая справаздача гурткоў «Усе мы родам з дзяцінства» адбылася нядаўна ў Чысцінскай сярэдняй школе.**

Усе гурткі гэтай навучальнай установы аб'яднаныя ў клубы. У першую суботу снежня перад вучнямі і іх бацькамі выступалі сябры клуба «У свеце чароўных гукаў і тэатральнага майстэрства». Яны паказалі фрагменты тэатральных пастановак, новыя песні і танцы. А іх аднакашнікі з аб'яднання «Умелыя рукі» ў гэты ж дзень разгарнулі выставу сваіх вырабаў. **Святлана ЦІШКО.**

■ СЛУЖБА «01»

## Будзьце пільнымі

**Усімі любімае свята, Новы год, не за гарамі. Але іншы раз гэта доўгачаканая ўрачыстасць азмрочваецца пажарамі, крыніца якіх у самаробных прыстасаваннях да ілюмінацыі, а таксама электрагірляндах, што працуюць у святочныя дні з павышанай нагрузкай.**

Часам вельмі сумна заканчваюцца і дзіцячыя забавы з піратэхнічнымі сродкамі: хлапушкамі, феерверкамі, бенгальскімі агнямі, петардамі. Каб свята для вас не абярнулася бядой, прыслухайцеся да навагодніх парадаў супрацоўнікаў пажарнай службы:

— ёлку ўстанаўлівайце далей ад ацяпляльных сістэм і электрапрыбораў;

— для ілюмінацыі выкарыстоўвайце электрычныя гірлянды толькі прамысловай вытворчасці;

— не ўпрыгожвайце ёлку ватай, каляровай паперай, не пакідайце каля яе без нагляду дзяцей.

Забараняецца ў памяшканні карыстацца і феерверкамі, хлапушкамі, запальваць бенгальскія агні, выкарыстоўваць для ілюмінацыі свечкі.

Ну, а калі пажар усё ж адбыўся, тэрмінова паведамляйце аб гэтым у пажарную службу па тэлефоне 01 і прымайце меры па эвакуацыі людзей. Памятайце, пажар лягчэй папярэдзіць.

**Цэнтр навучання правілам пажарнай бяспекі Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

■ ПАРТРЭТ

# Газетны «магнат»

**МАЛАДЗЕЧНА. У "РГ" ёсць уласны газетны «магнат». У народзе ён Калян, ці Пушкін, у гонар паэта і пісьменніка, на якога падобны. Па-сапраўднаму – Мікалай Кубіцкі. І пачаў ён свой бізнес... у 6-м класе. Ведаю, чытачам не цярпіцца даведацца, чаму «магнат»?..**

Справа ў тым, што Мікалай прадае як мінімум утрая больш "Рэгіяналкі", чым іншыя прадпрымальнікі нашага рэгіёну – 700 адзінак штотыдзень. Перш чым дасягнуць такіх вынікаў, ён працаваў у Граніцкай школе настаўнікам фізікі, матэматыкі, інфарматыкі, астраноміі. Мікалай быў на год старэйшы за сваіх выхаванцаў-старшакласнікаў. Хлопец не паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт і пайшоў працаваць. У той час не хапала настаўнікаў, і яго ўзялі на працу са школьным атэстатам. Надзвычай малады "фізік-лірык" быў любімцам вучняў. Потым змяніў вясковую школу на гарадскую. Скончыў педагагічны інстытут, што ў Мінску. Здаецца, жыццё ўлілося ў пэўнае рэчышча. Ёсць прафесія, работа, але маленькая настаўніцкая зарплата была лыжкай дзёгцю ў бочцы з мёдам.



Прадпрымальнік Мікалай Кубіцкі любіць падлічваць штодзённую выручку. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Таму вырашыў аднавіць справу, якую пачаў яшчэ ў дзяцінстве, — прадаваць газеты. 12-гадовым хлапчуком ён з маці ехаў цягніком з Йашкар-Алы і ўбачыў, як нейкі дзядзька прадае па вагонах газеты. У нас тады яшчэ такога не было. З'явілася думка зрабіць свой "бізнес". Гэтай ідэяй падзяліўся са сваім сябрам. На сто рублёў накупілі газет у кіёску і пайшлі па электрычках. Вынік – 20 рублёў навару. Так Мікалай Кубіцкі стаў "бізнесмэнам".

Напэўна, у дзяўчат нашага рэгіёну ўжо затрапяталі сэрцы пры думцы аб Пушкіне, у сэнсе аб М.Кубіцкім. І не адна дзяўчына ўявіла сябе яго Наталі Ганчаровай.

— А якой павінна быць ваша спадарожніца? – пытаюся ў Мікалая.

— Па-першае, сумленнай і справядлівай, з цёмнымі валасамі і светлымі вачыма. Ва ўсялякім разе не карымі.

Па суботніх вечарах Мікалай Кубіцкі ходзіць у бары, рэстараны, сустракаецца з сябрамі, займаецца камп'ютэрам ці спіць. Летам адпачывае на прыродзе. І марыць аб вясельным падарожжы ў Грэцыю, а таксама аб сыне і дачцэ. У азартныя гульні не гуляе. Калі тольк ў карты на запалкі, дзеля баўлення часу. Праўда, не супраць згуляць партыю ў добрай кампаніі на распрананне.

А цяпер, дзяўчаты, і сапраўды трапячыце! Калі вы маеце ўсе якасці, аб якіх гаварыў Мікалай Кубіцкі, і яшчэ носіце імя Алена, Святлана ці Вольга, гэта шанц кранцуь яго сэрца. Ён абяцае жаніцца. У суботу. Летам. Праз паўгода.

**Ірына РАБУШКА.**





# Па старонках «РГ» 2003 года

## Нясі мяне, мой дэльтаплан

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхар вёскі Краснае Анатоль Казакевіч ажыццявіў мару дзяцінства: сканструяваў дэльтаплан і падняўся на ім у неба.**

На сваім дэльтаплане ён лятае тры гады. За гэты час не раз наведаўся ў Радашкавічы, пабываў на Вілейскім вадасховішчы, на аэрадроме ў Хажове. Падымаецца, звычайна, на выдзеленую для палётаў вышыню – 300 метраў, хаця яго машыне пад сілу ўзняцца і на двух-, трохкіламетровую адлегласць ад зямлі.

Ніякай спецыяльнай адукацыі Анатоль Казакевіч не мае. Ён – бы той самародак у канструктарскай справе. Ды ці толькі гэтым можа пахваліцца мужчына. У вёсцы расказваюць, што на сваіх станках ён можа вытачыць любую дэталь для машыны альбо трактара, сканструяваць антэну для тэлевізара. Грошы за гэта не бярэ. Кажа, што любіць прыносіць радасць людзям.

**"РГ" №42 ад 17 кастрычніка.**

**Ад рэдакцыі.** Дэльтаплан на зіму Анатоль разабраў. Але святло ў яго майстэрні бачна да позняй ночы. Красненскі ўмелец прыступіў да канструкцыі самалёта, матор да якога купіў яшчэ восенню.



Жыхар вёскі Краснае Анатоль Казакевіч сканструяваў дэльтаплан.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

## Чакаем страусянятаў

**Страусы, якія гадуюцца на Маладзечанскай птушкафабрыцы ў Алёхнавічах, чакаюць папаўнення.**

Першую парачку Сіднэя і Снягурку прывёз на фабрыку Георгій Пякарскі з-пад Ракава на Валожыншчыне.

Пасля да іх далучыліся Гоша і Сярожа, Сэм і Дзюймовачка і яшчэ двое малышоў. Пакуль яны без імёнаў. Жывуць у вальерах, дзе раней гадаваліся індыкі.

А спецыялісты птушкафабрыкі чакаюць папаўнення, якое па часе ўжо павінна быць. Страусіха можа стаць маці на трэці год жыцця. Менавіта ў такім узросце знаходзяцца цяпер дзве птушкі.

**"РГ" №46, 14 лістапада.**

**Ад рэдакцыі.** Страусіная сям'я пакуль што не павялічылася, хаця на птушкафабрыцы гэтай падзеі чакаюць з нецярпеннем.



Птушніца Наталля Лісоўская з Маладзечанскай птушкафабрыкі ў Алёхнавічах са сваім гадаванцам.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Дзе баязліўцам не месца

**СМАРГОНЬ. Сапраўдная "сабачая акадэмія", падобных якой няма ў Беларусі, размешчана непадалёк ад Смаргоні.**

Будаўніцтва цэнтра ішло за кошт саюзных грошай Расіі і Беларусі. Адзінае кіналагічнае падраздзяленне рыхтуе спецыялістаў кінолагаў па пошукавай і спецыяльнай службе. А ў гадавальніку, які размешчаны на тэрыторыі кіналагічнага цэнтра, жывуць 75 дарослых сабак і 43 шчаняці.

**"РГ" №45, 7 лістапада.**

## З надзеяй на будучыню

**ВІЛЕЙКА. З трохсот чалавек, што некалі працавалі на Залескім шкляным заводзе, у штаце засталося чатырнаццаць. Астатняе працаздольнае насельніцтва жыве ў пастаяннай трывозе і не ведае, што будзе заўтра.**

Беды іх пачаліся паўтара года таму, акурат у гэты час завод закрылі на рэканструкцыю, і людзі, многія з якіх працавалі тут сем'ямі, засталіся без работы. Некаторыя былі ў трансе: як жыць, карміць дзяцей?

У пошуках работы многія мужчыны падаліся ў Расію; пазачынялі свае кватэры на замкі і з'ехалі з Залесся адзінокія людзі. Тыя ж, каго не пускаюць у далёкую дарогу ўласныя дзеці, выжываюць за кошт уласнай гаспадаркі і лесу, у якім усё лета збіралі на продаж ягады.

Сёлетнія зацяжныя дажджы зрабілі сваю чорную справу: у некаторых вяскоўцаў поўнасцю вымакла бульба, а ветэрынарная служба выявіла ў статку 25 лейкозных кароў. Ужываць такое малако нельга, жывёлу трэба збываць, а за якія грошы, не ведае ніхто. На тварах людзей роспач і заклапочанасць, якія яны амаль што ніколі не сціраюць.

**"РГ" №32, 8 жніўня.**

**Ад рэдакцыі.** У пасёлку Партызанскі па-ранейшаму самым шчаслівым чалавекам лічыцца той, хто мае работу. Прапаноўвае яе толькі суседні калгас, да якога не дабрацца. Пытанне рэканструкцыі завода застаецца нявырашаным.

## Радашкавіцкая кераміка

**Усю разнастайнасць керамічных вырабаў, якія выпускаюць на адкрытым акцыянерным таварыстве (ААТ) "Белмастацкераміка" ў Радашкавічах, у нашых магазінах не ўбачыш.**

Прычына, як расказаў дырэктар гэтага прадпрыемства Мікалай Кладаў, у запазычанасцях гандлю. Магазіны дрэнна разлічваюцца з таварыствам, яно, у сваю чаргу, не можа даваць тавар у доўг. Каб вытрымліваць канкурэнцыю сярод кітайскай, украінскай, расійскай, галандскай, італьянскай керамікі, трэба пастаянна развіваць і абнаўляць вытворчасць, а на гэта патрэбны грошы.

"Белмастацкераміка" лічыцца адным з буйнейшых беларускіх цэнтраў па вытворчасці керамікі. Тут вырабляюць 70 працэнтаў ад агульнай колькасці, што выпускаецца ў краіне. У калектыве пераважна – жанчыны, рукамі якіх і ствараецца ўся прыгажосць.

З нядаўняга часу на адкрытым акцыянерным таварыстве аднавілі работу ганчарнага цэха. Шчыруюць тут пакуль што восем чалавек. Многія не з мясцовых. Давеdaўшыся, што заводу патрэбны спецыялісты, людзі прыехалі аж з Ваўкавыска.

**"РГ" №28, 11 ліпеня.**

**Ад рэдакцыі.** Прадукцыя ААТ "Белмастацкераміка" карыстаецца попытам не толькі ў нас, але і ў Расіі. Па словах намесніка дырэктара Леаноры Кульбіцкай, падчас беларускіх дзён у расійскай сталіцы керамічныя вырабы прадпрыемства ішлі нарасхват.

## Адным абзацам

**Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" атрымаў спецыяльны дыплом за лепшы спектакль на 10-м міжнародным фестывалі тэатраў для дзяцей, які прайшоў у Субоціцы, што ў Сербіі.**

20 мая за апошнія 11 дзён вёску Дамашы затапіла трэці раз. Ад моцных ліўняў пацярпела 18 хат. Ваду з двароў, якая прыбывала, адкачвалі работнікі гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.

**Цёпла, як добрага знаёмага, віталі 21 мая ў гарадской бібліятэцы Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла ЗША ў Беларусі Майкла Козака. Ён прыехаў не з пустымі рукамі. Дзякуючы пасольству ЗША аддзел замежнай літаратуры атрымаў 2 камп'ютэры і літаратуру па іспанскай мове.**

Віляйчанін Віктар Грышан, якога ведаюць у наваколлі як заядлага рыбака, злавіў 7-кілаграмовага сазана.

**8 мая вядомы пісьменнік, паэт і гісторык Уладзімір Арлоў правёў творчую сустрэчу ў школе-інтэрнаце для дзяцей, якія хворыя на скаліёз.**

Ля вёскі Краснае прайшло перапахаванне астанкаў 15 невядомых ахвяр фашызму.

**У гэтым годзе ўсе беларускія школы перайшлі на 10-бальную сістэму ацэнкі ведаў.**

Падчас вясновых канікулаў маладзечанскія школьнікі зрабілі паход па Крымскім паўвостраве.

**У лабараторыі грыбнога цэха завода будаўнічых канструкцый, што ў Чысці, вырасцілі для продажу грыб шытаке.**

## З трыснягу

**МЯДЗЕЛ. 17 мая ў Занарачы адкрыўся цэх па выпуску камышыту – экалагічна чыстага таннага будаўнічага матэрыялу, які можа скарыстаць кожны, хто будуе сабе жыллё.**

Цэх адкрыла міжнароднае дабрачыннае грамадскае аб'яднанне "ЭкаДом" пры партнёрскай падтрымцы нямецкай дабрачыннай арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля", федэральнага бюджэту Германіі і асабістых складак дзесяткаў жыхароў Нямеччыны. Перад урачыстым пускам цэх ужо працаваў. І першы трыснёг для запуску і адладкі абсталявання прывезлі з Польшчы – запакаваны ў поліэтылен, як сапраўды каштоўны матэрыял. Значныя ж запасы трыснягу для вытворчасці назапасілі на Лепельшчыне і паблізу на Нарачы сезонныя рабочыя ўзімку.

**"РГ" №21, 23 мая.**

## У госці да Агінскага

**СМАРГОНЬ. Дзень нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага святкавалі 28 верасня ў Залессі.**

Госці сюды прыязджаюць штовосень з 1990 года, калі Сяргей Верамейчык пачаў ладзіць такія мерапрыемствы. Толькі на гэтым свяце можна ўбачыць самых розных людзей адначасова.

Спачатку Сяргей Верамейчык правёў экскурсію па сядзібе. Затым гучалі музычныя кампазіцыі ў выкананні гурта вілейскай этна-школы №6. Яны чаргаваліся з выступленнямі ўдзельнікаў гульні "Паўночна-афінскае кола", якія пераапраналіся ў касцюмы 19 стагоддзя. Дэвізам арганізатараў мерапрыемства сталі словы "Зрабі сабе свята сам", таму ніхто не сумаваў.

**"РГ" №40, 3 кастрычніка.**



Гасцей, што прыязджалі на свята ў Залессе, сустракалі дзяўчаты ў незвычайных капелюшах.

Фота Святланы ЦІШКО.

## Жывыя дрэвы не пацярпелі

**ВІЛЕЙКА. На базе Вілейскага лясгаса прайшлі адборачныя спаборніцтвы лесарубаў, пераможцы якога адправяцца на чэмпіянат свету-2004 у Італію.**

Старт далі на пяці пляцоўках адначасова. Ва ўсіх відах самымі важнымі паказчыкамі лічыліся хуткасць і дакладнасць. Калі ўдзельнік абразаў сукі больш чым 30 секунд, налічваўся штраф.

Пераможца вызначыўся па выніках двух дзён. Ім стаў чэмпіён Беларусі Васіль Міранюк з Крупскага лясгаса. Лесарубы нашага рэгіёну ўвайшлі ў пятнаццатку лепшых канкурсантаў, якія будуць змагацца за права ехаць у Італію на чэмпіянат свету.

**"РГ" №43, 24 кастрычніка.**

**Ад рэдакцыі.** Канчатковы склад беларускай каманды пакуль што не вызначаны. Хто будзе прадстаўляць Беларусь у Італіі стане вядома ў маі наступнага года, калі пройдуць усе адборачныя туры.


На базе Вілейскага лясгаса прайшлі спаборніцтвы лесарубаў.
Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

## Птушка шчасця

**Арніталагічны клуб пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Халадзінскага перамог на 1 міжнароднай выставе "Птушка, якая аб'ядноўвае нас". Клуб працуе пры цэнтры пазашкольнай работы, а месціцца ў СШ №3.**

На выставе, а прайшла яна ў Мінску, удзельнічалі галубагадоўцы і аматары птушак з Беларусі, Украіны, Туркменіі, Татарстана, Кітая. Птушкі ацэньваліся па 100-бальнай міжнароднай сістэме. Самка і самец туркменскага агарана, якіх прывезлі маладзечанскія клубаўцы, атрымалі 92 і 94 балы адпаведна.

Дзмітрый займаецца птушкамі з дзяцінства. А дакладней, ён з імі вырас. "Для мяне голуб – гэта птушка шчасця і міру", — гаворыць ён. Акрамя галубоў, у Дз.Халадзінскага жывуць крумкач Карлуша, які ўмее гаварыць, канарэйкі, сарока, што любіць паласавацца мясам...

Тры мяхі збожжа ў месяц і 1 кілаграм мяса на тыдзень трэба гаспадару, каб пракарміць сваіх гадаванцаў. Дарэчы, птушкі "працуюць" у гарадскім ЗАГСе. Дзмітрый Халадзінскі прыносіць галубоў, каб маладыя выпусцілі іх ў неба. Кажуць, гэтыя птушкі прыносяць шчасце на ўсё жыццё.

**"РГ" №3 ад 17 студзеня.**

## Памяць пра Ермаловіча


У час адкрыцця помніка Ермаловічу.
Фота Святланы ЦІШКО.

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 лістапада на скрыжаванні вуліц Віленская і Валынца адкрылы помнік гісторыку і літаратуразнаўцу Міколу Ермаловічу.**

Гэта камень у рост чалавека, да якога прымацаваная дошка з барэльефам (партрэт гісторыка) і надпісам "Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі". Да гэтага часу помнік Ермаловічу быў у Старых Дарогах і Дзяржынскім раёне.

**"РГ" №49 ад 5 снежня.**

## Смаргоні было ўсяго 500

**СМАРГОНЬ. Радзіма славутых абаранкаў адзначыла свой 500-гадовы юбілей, дату, якую так доўга чакалі і да якой рыхтаваліся.**

Горад — асабліва яго цэнтральная частка – набыў да гэтай падзеі сучаснае аблічча, што стваралася рукамі будаўнікоў не толькі са Смаргоні, але і з іншых раёнаў вобласці на працягу шасці месяцаў. А ў дзень святкавання ёнператварыўся ў адну вялікую забаўляльную пляцоўку. Гараджане змаглі паўдзельнічаць у спаборніцтвах, народных гульнях, паглядзець паказальныя выступленні кіналагічнага цэнтра і Смаргонскага раённага аб'яднання кінолагаў. Моднікам і модніцам прадэманстравалі мадэлі адзення асенняга сезона магазіна "Рэтра" і калекцыю адзення і прычосак.

**"РГ" №42 ад 17 кастрычніка.**

## Каб ведаць, хто мы...

**Кожны народ мае сваю мову і не цураецца, а ганарыцца ёй. Большасць нашых землякоў чамусьці кажа адно аднаму пры сустрэчы "Здрасьце". Няўжо забыліся, хто мы, адкуль нашы карані і кім былі продкі?**

Аказваецца, не. Апошні перапіс, які адбыўся ў рэспубліцы чатыры гады таму, паказаў, што больш васьмідзесяці працэнтаў насельніцтва краіны лічаць беларускую мову сваёй роднай. Не грэбуюць мовай сваёй Бацькаўшчыны і маладзечанцы. Дык для каго ж тады звыклую вывеску "Чыгуначны вакзал" у Маладзечне памянялі на "Железнодорожный", а на шыльдзе, акурат насупраць новага Палаца культуры, напісалі "Дворец культуры".

**"РГ2 №29 ад 18 ліпеня.**

**Ад рэдакцыі.** Крыху менш чым праз месяц "Дворец" стаў "Палацам". Ёсць у гэтым заслуга "Рэгіянальнай газеты" ці не, мы не ведаем. Аднак не ўтрымаліся, каб не сказаць пра гэта на старонках газеты. Народ павінен паважаць сваю мову!

## Добра там, дзе нас няма

**Кожнаму ў жыцці чагосьці не хапае. Адным – фасолі ў супе, другім – пярсцёнка з брыльянтам. На рэдкі суп наш герой не скардзіўся. Проста яму надакучыла прыносіць дадому зарплату, на якую можна было аплаціць камунальныя паслугі і купіць ажно пяць кілаграмаў мяса. І бацька сямейства адправіўся на заработкі ў Маскву.**

Фірма, што гарантавала работу, абвяла іх вакол пальца. Мужчыны тыдзень сланяліся па горадзе, пакуль не знайшлі работу ў падмаскоўі. Жылі ў вагончыку, працавалі ад рання да змяркання, харчаваліся сціпла. У выніку зноў аказаліся падманутымі, і за шэсць месяцаў працы ў Маскве Сяргей прывёз дадому 150 долараў.

Сямейнага скандалу не было. Жонка плакала ад радасці, што нарэшце вярнуўся, жывы і здаровы. Ды і дзеці былі на сёмым небе ад шчасця, бо даўно засумавалі без бацькі. А ён сутыкнуўся з новымі праблемамі. Трэба было зноў шукаць работу, толькі ўжо ў Маладзечне...

**"РГ" №43, ад 24 кастрычніка.**

**Ад рэдакцыі.** У сям'і нашага "масквіча" поўны парадак. Сяргей знайшоў работу па спецыяльнасці, плюс да ўсяго, падрабляе па выхадных: дапамагае сябру рамантаваць машыны. Учора ён купіў вялікую прыгожую ёлку і навагоднія падарункі дзецям і жонцы.

## Дурань – азартная гульня

17 красавіка ў брыдж-клубе "Папараць" прайшоў чэмпіянат па падкідным дурні. Першым стаў Аляксандр Карачун (18 ачкоў), другім – Аляксандр Голуб (17,5), трэцяе месца падзялілі Рыгор Бурэц і Віктар Піскун – па 16,5. **"РГ" №17, 25 красавіка.**

**Ад рэдакцыі.** Да маладзечанцаў далучыліся мядзельцы. Некалькі тыдняў таму турнір па падкідным дурні прайшоў у Главе. На яго сабралася 26 чалавек. Памяшканне для спаборніцтваў выдзеліў мясцовы вінзавод, дырэктар якога таксама з'яўляецца прыхільнікам гэтай гульні.

## Сустрэнемся праз год

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлетні Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі быў багаты на новыя песні, творчыя сустрэчы з паэтамі і пісьменнікамі.**

Аляксандр Лукашэнка на фестываль так і не прыехаў. Леанід Гуляка, які адкрыў урачыстасць, прачытаў ад яго віншаванне. Спецыяльны прыз Уладзіміра Мулявіна за папулярызацыю беларускай песні ўручылі заслужанаму калектыву – Дзяржаўнаму канцэртнаму аркестру Беларусі пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Фінберга. Прафесару ўручылі і спецыяльны прыз ад Маладзечанскага гарвыканкама – новы аўтамабіль ВАЗ-2106.

**"РГ" №26 ад 27 чэрвеня.**


Прайшоў у Маладзечна фестываль.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Кожная жанчына прыкладае нямала сіл, каб зрабіць навагоднпе свята асаблівым. Бо Новы год, як вялікі начальнік, можа прыйсці і сам, але сустракаць яго трэба абавязкова.**

## Атмасфера свята

Атмасферу свята можа стварыць не толькі традыцыйная лясная прыгажуня, але і вытанчаныя кампазіцыі-букеты і гірлянды. Калі ставіце дома ёлку ці сасну, звычайна прыходзіцца абразаць некалькі ніжніх галінак. Дзве-тры такія галінкі, яркая стужка, серпантын, чырвоны ёлачны шарык ці шышка, лядзяш ці званочак – гатовы святочны букет, які можна павесіць на сцяну, альбо дзверы.

### Маленькія прэзенты

Не ўсе дарагія сэрцу падарункі мераюцца коштам. Бывае, якую-небудзь дробязь мы захоўвам гадамі, таму што з ёй звязаны прыемныя ўспаміны. Увага і клопат — важнейшыя за дарагія падарункі.

Таму давайце крышку пафантазіруем і зробім так, каб наш маленькі прэзент стаў каштоўным падарункам.

Купіце для сваіх блізкіх, напрыклад, цукеркі. Толькі не забудзьцеся, што ядомыя сюрпрызы павінны адпавядаць густу таго, каму прадназначаны.

Падарыце сваячцы замест кветак гаршчок з раслінай. У дадзеным выпадку гэта не толькі да месца, але і практычна.

І канешне ж, цаны не будзе тым падарункам і прэзентам, якія вы зробіце самі, сваімі рукамі. Што гэта можа быць? Вязаная шапачка для пляменніка, шкарпэткі для бабулі, вышытая сурвэтка для сястры. Словам, фантазіруйце.

### Апошнія штрыхі

Вы ўжо вырашылі, як будзеце сустракаць Новы год? Кім вы будзеце – гаспадыняй ці госцяй? Ад гэтых абставін залежыць выбар вашай сукенкі, прычоскі. І якімі б яны ні былі, без макіяжа, хаця б лёгкага, вам не абысціся.

Адразу твар ачысціце. Пры сухой скуры – тонікам, тлустай – малачком, а затым ласьёнам. На ачышчаны твар нанясіце: пры сухой скуры – гель, які ўвільгатняе, каб макіяж глядзеўся больш свежа, тлустую скуру ўвільгатняць не трэба. Затым наносім грунтоўку, якую звычайна называем танальным крэмам, пасля яе – тонкі слой пудры, якая павінна быць святлейшая за крэм.

Цяпер, калі твар набыў свежы выгляд, а скура стала роўнай і гладкай, нанясіце румяны, якія могуць выконваць дзве функцыі: асвяжаць колер твару і карэкціраваць яго форму.

А затым ужо самі тварыце свой вобраз пры дапамозе тушы, памады, ценяў і інш.

### Піце прыгожа!

Адразу віно не піце, а вызначце яго колер – які ён на ваш погляд: руժовы, чырвоны, з гранатавым адлівам, фіялетавым. Пасля ацаніце празрыстасць напітку (добрае віно заўсёды без асадку).

Цяпер (нарэшце!) можна выпіць: адразу робім маленькі глыток і праз некалькі хвілін – вялікі, каб віно разлілося па ўсёй поласці рота, тады правільна адчуеце смак.

Галоўнае, каб ужыты нектар прынёс задавальненне і ў вас уліпося мора святу і цеплыні.

**Падрыхтавала Марына СЛІЖ.**

■ **АНЕКДОТЫ**

— Мама, сёння ў школе я не дазволіў пасмяяцца з настаўніцы!

— Малайчына! Што ж ты зрабіў?

— Калі сусед паклаў на яе крэсла кнопку, а яна сабралася сесці, я адсунуў крэсла.

---

П'яненькі мужычок накіраваўся да турнікету метро. Работнік метрапалітэна не прапусціў яго, патлумачыўшы, што ў такім выглядзе нельга карыстацца метро. Чалавек махнуў на эскалатар і спытаўся:

— Ну, добра, але скажыце мне, калі ласка, праўда, што там унізе цягнікі ходзяць?

— Так, ходзяць.

— А ці праўда, што там люстры ўсюды вісяць і вельмі светла?

— Так, праўда.

— І што, усё мармурам пакрыта?

— Так, а што вы не мясцовы?

— Ды мясцовы я.

— Дык калі мясцовы, то чаму ніводнага разу ў метро не былі?

— Дык ніхто ж не пускае.

---

Працуе ў нашай паліклініцы доктар-рэнтгенолаг па прозвішчы Дурнеў. Падыходзіць неяк бабулябожы адуванчык да акенца ў рэгістратуры і пытаецца:

— Дачушка, а калі рэнтгенолаг прымае?

— Дурнеў прымае пасля абеду.

— Роднанькая, а калі ж разумных?..

---

Выпадак з жыцця

Па скверы ідзе мужчына і гаворыць па сотаваму. За руку ён вядзе 3-4-гадовага сына, які размаўляе па цацачнаму сотаваму.

Хлопчык спатыкаецца і падае, выраз яго твару не мяняецца, а ў трубку ён гаворыць:

— Братаны, я тут упаў – прыязджайце падымаць.



Стаміліся снягурачкі і вырашылі закурыць...

Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ **НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ**

# Да будучай цешчы – з тортам

"Прыязджай да нас на Новы год. І мама рада будзе", — сказала Тамара жаніху, якога даўно ўжо абяцала пазнаёміць з бацькамі. У Андрэя затрэсліся рукі і ногі адначасова. Сэрца будучай цешчы нарэшце адтаяла, і запрашэнне ў госці нішто іншае, як згода на іх з Тамарай шлюб.

Каб не выглядаць белай варонай, пазычыў у суседа па інтэрнату касцюм, купіў кветкі, бутэльку шампанскага, каробку цукерак. На вакзале неўтрымаўся і далучыў да ўсяго гэтага дабра яшчэ і торт. Прыгожы, з вялікімі белымі кветкамі.

Ехаць было няблізка. А людзей у электрычцы як на той грэх — не прабіцца. Яно б можа і нічога, каб не той праклятьі торт. Як толькі сябе Андрэй не называў, прыціскаючы яго да грудзей: і ёлупнем, і дурнем, і аслом, якому стукнула ў мазгі цягнуць яго за 200 кіламетраў.

Прыгарадны цягнік таксама быў перапоўнены. "Малады чалавек, не трымайце вы гэты торт, пастаўце на палічку для сумак", — параіла адна з пасажырак. Андрэй паслухмяна паставіў каробку побач з нейчым вялікім партфелем. А кветкі ўзялася патрымаць усё тая ж клапатлівая жанчына.

Прыпынкаў не аб'яўлялі. Да болю ў вачах узіраўся хлопец праз акно на назвы прыпынкаў. Пасля, успомніўшы словы Тамары: "Выйдзеш на сёмым ад Маладзечна прыпынку", стаў проста лічыць.

Цягнік спыніўся шосты раз. Наступны — мой, падумаў хлопец, і сэрца закалацілася. Узяў кветкі, пакет, дзе ляжалі шампанскае і цукеркі, стаў праціскацца бліжэй да выхаду. Замільгалі агні вёскі, цягнік збавіў ход. "Малады чалавек, торт забыліся", — закрычалі з вагона. Пакуль вярнуўся, пакуль зноў праціснуўся ў тамбур, поезд рушыў з месца. Добра, што хоць дзверы ў ім не зачыняліся аўтаматычна. Андрэй злаўчыўся і скочыў у цемру.

Скачок аказаўся няўдалым. Прызямліўся не на ногі, на чацвярэнькі. Пры гэтым адным каленам выцяўся аб шпалу, другім — прыпячатаў торт. Ад крыўды захацелася завыць паваўчы...

"Што, прыпынак праехаў?", — спытала спачувальна Тамара, якая прыйшла сустракаць на вакзал. "Ыгы", — адказаў будучы жаніх і непрыкметна змахнуў слязу.

...Тамарыным бацькам будучы зяць спадабаўся. Як убачылі кульгавае хлапчанё з пазбіванымі далонямі і сплюснутым тортам у руках, так і прыкіпелі да яго сэрцам. Пасля яшчэ да доктара вазілі, калена ўсе выхадныя лячылі, а на вяселле падарылі аўтамашыну. Ну што зробіш, калі ў зяця такая "ганьба" – не ўмее ездзіць на цягніках.

**Марына СЛІЖ.**

■ **БЫВАЛІЦА**

# Дзедам Марозам пужаны

У доме пахла снегам, ёлкай і пірагамі. Павязаўшы паверх святочнай сукенкі фартух, Таня заканчвала сервіроўку навагодняга стала. З піскам, лямантам і вясёлым смехам за ёй бегалі дзеці. "Дапамог бы", — раз-пораз кідала яна мужу, які сядзеў насуплены і злы. Жонка не пусціла ў клуб, дзе акурат у гэты час мясцовыя культработнікі праводзілі перадНавагодні канцэрт.

"Людзі весяляцца, святкуюць, а ты сядзі, як дурань, у хаце", — сказаў ён ні то сабе, ні то Тані, якая ў чарговы раз зазірнула ў залу. Тая не вытрымала, выцяла праз плечы ручнікам і са словамі: "Не ныі", зноў знікла.

Зразумеўшы, што справы дрэнь, Сяргей у наступ больш не пайшоў. Як ні круці, а вінаваты. Увесь мінулы тыдзень прыходзіў дадому "на рагах". Жонцы даводзілася адной і з дзецьмі ўпраўляцца, і з гаспадаркай. Бо вечарам ён спаў, а раніцай – стагнаў. Прывучанае да гарэлкі нутро прасіла пахмяліцца.

Сустракалі Новы год з шампанскім. "Ну, каб надышоўшы быў лепшы за мінулы і ты нарэшце стаў чалавекам", — напоўніўшы бакалы шыпучай вадкасцю сказала жонка. Сяргей вінавата ўсміхнуўся і выпіў да дна.



"Новы год, Новы год", — спявалі з экрана тэлевізара. Яны сядзелі, бы на пахаванні. Таня, падпёршы рукой шчаку, цяжка ўздыхала. Сяргей нервова калупаў відэльцам на талерцы салат. "Усё, цярпенню майму канец, пі!" — не вытрымала нарэшце жонка і, паставіўшы перад ім бутэльку гарэлкі, пайшла спаць.

Піў адзін. Адразу за сталом, пасля ў крэсле ля тэлевізара. Так і задрамаў з бутэлькай у руках. Снілася дарога, мост, па якім ніяк не мог перайсці на другі бок, і нейчы голас: "Сяргей! Сяргей!".

Ад яго і прачнуўся. Агледзеўся – жонка ў ложку, у хаце — нікога і толькі было хацеў падняцца з крэсла, як ў акно хтосьці пастукаў. Падышоў, глянуў – нікога. Але не паспеў і кроку ступіць, як хтосьці па той бок акна зноў паклікаў: "Сяргей!". Дрыжачымі рукамі ўключыў святло, прыгледзеўся... і адразу ж асунуўся на падлогу. Праз акно на яго глядзела калматая галава Дзеда Мароза. "Дапіўся! Дапіўся!", — стукала ў галаве. А страшыліща за акном усё стукала, стукала, раз-пораз называючы яго імя...

Сабраўшы волю ў кулак, Сяргей падняўся і як скочыўшы да жонкі ў ложак. Абняў, прыціснуўся, але заснуць так і не змог. Як толькі заплюшчваў вочы, адразу ж бачыў перад сабой страшны твар Дзеда Мароза. Забыўся толькі пад раніцу. Спаў трывожным, цяжкім сном.

Прачнуўся ад дотыку чыйсьціх халодных рук. Думаў, Таня, таму доўга мармытаў, рабіў выгляд, што не можа прачнуцца. Нарэшце адкрыў адно вока, другое, і... анямеў. Перад ім стаяў усё той жа Дзед Мароз і голасам суседа-культработніка гаварыў:"Здароў, давай хоць цяпер за Новы год вып'ем. Ночцу ж у хату не пусціў".

У тую раніцу ён усё ж такі выпіў. Пасля абышоў вакол хаты, агледзеў сляды пад акном, якіх багата пакінуў начны госць і сказаў сабе:"Усё!".

Сёлета споўніліся тры гады, як Сяргей не п'е. А калі падчас застолля хто-небудзь са спачуваннем у голасе пытаецца: "Кадзіраваны?", са смехам адказвае: "Не, Дзедам Марозам пужаны". І абавязкова расказвае гэту гісторыю. Што было ў жыцці, тое было. Галоўнае — жончын навагодні тост збыўся: стаў чалавекам!

**Марына СЛІЖ.**

 



# Як сустракаем Новы год?

Мы звярнуліся да людзей, якіх добра ведаюць землякі. Сярод іх старшыня гарадскога выканкама, дырэктар школы, прадпрымальнік, дэпутат. Папрасілі іх расказаць аб тым, як сустракаюць Новы год у іх сем'ях, што з'яўляецца на навагодніх сталах, якія дораць падарункі.



**Мікалай Гіро, дырэктар СШ№3 Вілейкі, старшыння Вілейскага аддзялення Дзіцячага фонду:**

– З якім настроем развітваецеся са старым годам?

Развітваюся з 2003-м годам з цудоўным настроем. Ёсць добрыя поспехі ў школе. Нас парадавалі ўдзельнікі прадметных алімпіяд. Спадзяюся, што яны добра выступяць і на рэгіянальных. Як звычайна, маем шмат прызавых месцаў у розных конкурсах. Занялі трэцяе месца ў абласным конкурсе па экалагічным выхаванні.

А калі добра ўсё на працы, тады добра дома, і наадварт. Сёлета непрыемнасцяў не было.

Спачатку Новы год заўсёды сустракаем дома. Збіраецца ўся сям'я. А потым ідзём да сяброў, якія ў нас пераважна з настаўніцкага кола, і свята паступова пераходзіць у настаўніцкія размовы. На Новы год заўсёды ёсць ёлка. Адзін год паставілі штучную, але сынам яна не спадабалася – не было таго водару лесу.

Дзеці, хоць яны ўжо выйшлі з бацькоўскай хаты – малодшы сын сёлета паступіў у машынабудаўнічы каледж, – яшчэ і цяпер чакаюць падарункаў. Я быў вельмі здзіўлены, калі яны ў мінулым годзе паставілі свае пакаёвыя тапкі пад ёлку. Канешне, разам з жонкай робім сваім сынам падарункі. У адказ яны робяць падарункі нам. Самае галоўнае — не ў велічыні падарунка, а ў той увазе, якую яны праяўляюць. Захоўваем і з прыемнасцю глядзім тыя падарункі, якія сыны раней рабілі для нас сваімі рукамі. У гэткія хвіліны асабліва шкада, што час мінае.

На жаль, бацькі не прышчапілі мне традыцый святкаваць Каляды. Мая мама – каталічка. Яна жыве цяпер адна. Абавязкова кожны год, як бы цяжка ні было, 25 снежня разам з двума сваімі братамі едзем да яе. Цяпер у 5-м класе праходзім тэму, звязаную з Бібліяй. У сувязі з гэтым думаю, наколькі змяніўся час. Дзеці, мае вучні, будуць больш ведаць пра гэтае пытанне.

Традыцыйных страваў няма. Традыцыйны толькі падзел у іх прыгатаванні. Жонка робіць мясныя стравы, а вось салаты – справа мужчынская.

Наступны год – год Малпы. Ці зважаеце Вы на гараскопы?

Усходні каляндар прыходзіць не з 1-га студзеня, а пазней. Па праўдзе кажучы, не гляджу на гэта сур'ёзна. Але, напэўна, гэтак весялей.



**Ігар Баслык, член пастаяннай камісіі па бюджэту, фінансах і падатковай палітыцы Палаты прадстаўнікоў, член дэпутацкай групы "Рэспубліка", дэпутат парламента ад выбаршчыкаў Вілейшчыны і Мядзельшчыны:**

– З годам, які адыходзіць, развітваюся без шкадавання. Спадзяюся, што наступны будзе лепшым.

Новы год сустракаю за сямейным сталом, а на наступны дзень з сябрамі ў лесе гатуем шашлыкі. Па іх я спецыяліст. Калі з бараніны, то замочваю ў воцаце, калі са свежай свініны – у самым звычайным расоле. З цыбуляй, спецыямі, дадаю трохі воцату. Птушку ж рыхтую ў маянэзе. Мангалу майму каля 7 гадоў, калісьці падарылі, ужо выгарэў ўвесь, але пакуль дзейнічае. А сёлета на Новы год прыгатую труса. Нядаўна быў у сяброў, пачаставалі – вельмі спадабалася трусяціна. Захацелася і самому прыгатаваць – у Мінску, ведаеце, цяпер на трусоў нейкі бум пайшоў.

Калі дзеці былі меншымі, у мяне двое сыноў, то цэлы тыдзень пад ёлкай яны шукалі і знаходзілі падарункі. Што ж там Дзед Мароз прынёс? Цяпер не так. Хаця кожны стараецца зрабіць нейкі, хаця і дробны, але прыемны, падарунак.

А чытачам "Рэгіянальнай газеты" жадаю, каб жыццё памянялася да лепшага. Міру, душэўнага спакою вам!



**Мікалай Чурсін, старшыня Маладзечанскага гарвыканкама:**

— Гэтае свята сустракаю з сям'ёй. Напярэдадні ўпрыгожваем ёлку. Прыкладна ў метра паўтара. Потым пад яе кладзём 5 падарункаў — кожнаму па адным. Звычайна яны дробныя і, канешне ж, цукеркі. Мяркую, на свята мне падораць малпу ў выглядзе сувеніра. Ад мінулага года застаўся на памяць баранчык. Я заўсёды атрымлівую ў падарунак тую жывёлу, год якой наступае.

На святочны стол ставім шампанскае і самыя любімыя стравы. Але гэта камерцыйная тайна. Скажу толькі, што бутэрбродаў з чорнай і чырвонай ікрой няма. Самапечанага торта таксама: купляем яго ў магазіне.



**Раман Уласенка, прадпрымальнік са Смаргоні. Прадае "Рэгіянальную газету":**

– Новы год для мяне сямейнае свята. Заўсёды сустракаю яго з жонкай, двума дзецьмі, мамай, татам і братам.

Замест ёлкі ставім сасну. Яна лепш пахне і менш абвальваецца. Пад прыбранае дрэўца кладзём падарункі. А дакладней, 7, каб ўсім хапіла. Гэта цукеркі і тое, аб чым прасіў той ці іншы чалавек. У свой час пад сасной ляжалі веласіпед, камп'ютэр, шалікі, хустка, суперсагравальныя шкарпэткі.

У навагоднюю ноч тэлефануем да бацькоў жонкі. Яна нарадзілася ў Татарыі. Таму на святочным стале ў нас заўсёды вялізны пірог з бульбай — «баліш» — нацыянальная татарская страва. Дарэчы, я ўражаны наколькі Беларусь бедная на выпечку ў параўнанні з Татарыяй.

За навагодні стол, на якім шмат уласных кансерваваных кампотаў, сокаў, салатаў і лёгкіх закусак, мы садзімся каля васьмі гадзін вечара. Пасля 12 убіраем і пакідаем — шведскі. А самі танчым, колькі зможам.

Нашых пастаянных аўтараў – пазаштатных карэспандэнтаў – напярэдадні Новага года мы папрасілі расказаць пра тое, чым быў адзначаны для іх мінулы год, што яны робяць, калі не пішацца, якіх публікацый чакаць з іхніх партфеляў.



**Віталь Паўлоўскі, рэдактар скаўцка–моладзевай газеты "Лілея", што выдаецца ў Вілейцы, работнік дзіцячага рэабілітацыйна–аздараўленчага цэнтра "Надзея":**

– Баюся, што год быў звычайным, цяжка штосьці вызначыць. А калі не пішацца, апрацоўваю на камп'ютэры графічныя матэрыялы, фотаздымкі. Планую работу на далейшае. Шукаю новыя тэмы, парадкую свой архіў, карыстаючыся Internet, кнігамі, раблю газетныя выразкі. Магчыма, нешта спатрэбіцца ў будучым.

Сёлета мы заканчваем год 49–м нумарам "Лілеі". Новы пачнем 50–м. Хочацца больш вастрыні ў скаўцкай газеце, каб нашы публікацыі ўплывалі на свядомасць, на выбар людзей. Больш буду ўдзяляць увагі пытанням рынкавай эканомікі. Сур'ёзна хачу заняцца пытаннем дзяржаўнай ідэалогіі. Маю на ўвазе канструктыўны чыннік. Пошук дзяржаўнай ідэалогіі – вельмі сур'ёзная задача ў грамадстве.



**Алесь Ралавец, настаўнік з Маладзечна, аўтар "Нявыдуманых гісторый":**

— Сёлета я даведаўся шмат нявыдуманых гісторый. Іх мне расказалі знаёмыя і не вельмі, сябры. Таму магу запэўніць чытачоў «Рэгіянальнай газеты», што ўсё напісанае мной — чысцюткая праўда.

Але, папрацаваўшы ў школе, здзівіць мяне цяжка. Здзіўлення не было б нават ад акіяна. Я і не хачу яго бачыць. Баюся расчаравання. На маю думку ён блакітны, а раптам акажацца шэрым?..

Лепш пагуляць са сваёй 5-гадовай дачкой або пачытаць сур'ёзную літаратуру, што я і раблю, калі мне не пішацца. Дарэчы, цяпер я рыхтую для чытачоў «РГ» матэрыялы па краязнаўству. А таксама пра людзей, чые імёны звязаныя з заснаваннем нашай дыяспары ў Аўстраліі. У наступным годзе парадую сяброў сваёй кнігай пра мінулае Маладзечаншчыны (18-19 стагоддзі), артыкулам пра тэорыю верагоднасці і, канешне ж, нявыдуманымі гісторыямі.



**Анатоль Рогач, начальнік Вілейскіх электрасетак, аўтар краязнаўчых матэрыялаў:**

– Сёлетні год для мяне важны і запамінальны. У трэці раз я стаў дзедам: нарадзіўся ўнук Ілья акурат на аднайменнае свята, што ў жніўні. Можа, таму мне заўсёды пішацца. Заўважыў, лягчэй пісаць увечары, у выхадныя, у адзіноце. Калі ўсё ж такі на паперы нічога не атрымліваецца, тады чытаю кнігі, часопісы, «улажу» ў свае архівы. Дарэчы, я перапісваюся з нацыянальнай бібліятэкай.

Шмат часу аддаў для напісання кнігі «Памяць» пра Вілейшчыну, якой нарэшце парадую сваіх чытачоў. Так як і матэрыяламі пра раку Нарачанку, дзе нарадзіўся. Я іх задумаў 5 год таму. Заляжаліся ўжо ў маім партфелі.



**Ігар Кіцікаў, вядучы рубрыкі "Адкрыты ўрок", намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Вілейскага ПТВ-200:**

— Я купіў камп'ютэр. Далучыўся да такой з'явы, як Internet. Раней і не падазраваў, што столькі карыснага і цікавага можна знайсці ў глабальнай сетцы.

Увесь час пішацца. Нават не хапае часу. Займаюся і грамадскай работай.

Усім вядомы Шлях з варагаў ў грэкі, які праходзіў па Дняпры. 1000 гадоў прашло з таго часу. Шмат загадак яшчэ не разгадана. Упэўнены, што існавала адгалінаванне Шляху, які праходзіў па Нёмане, Віліі. Але пра гэта нідзе няма згадак. Хачу заняцца вывучэннем геаграфічных назваў рэгіёну, каб паказаць, што тут нямала імёнаў, якія маюць скандынаўскае паходжанне.

У 80–х гадах на Смаргоншчыне з інтэрвалам у пару гадоў мясцовыя жыхары знайшлі паблізу Віліі 2 буйныя клады сярэбраных арабскіх манет. Клад ад клада знаходзіўся ў 150 метрах. Ці не напалі калісьці рабаўнікі на купцоў, што тут плылі? І тыя мусілі схаваць свае грошы. А забраць не здолелі. Магчыма, яны, гаспадары, загінулі. У далёкія часы гэта была звычайная з'ява.



**Альбін Макарэвіч, аграном, вядучы рубрыкі "Парады садавода і агародніка":**

— Гэты год запомніўся мне тым, што мірным шляхам скінулі прэзідэнта Грузіі.

Лепшым падарункам для сябе лічу ўзаемапаразуменне і добры настрой. Дарэчы, я заўсёды імкнуся яго палепшыць, калі мне не пішацца. У наступным годзе парадую чытачоў «Рэгіянальнай газеты» нетрадыцыйнымі парадамі па гаспадарцы. Напрыклад, як дагледзець за садам і пры гэтым не толькі не стаміцца, што звычайна бывае ад працы, а аздаравіцца. Таксама раскажу, як вырасціць бульбу з насення.

Пытанні задавалі Ірына РАБУШКА, Віталь ПАЎЛОЎСКІ, Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

 

Усе прадказанні, гараскопы і варажба цікавяць нас толькі з аднаго пункту погляду – мы марым аб удачы і шчасці! А ёсць жа яшчэ прыкметы, з дапамогай якіх можна таксама прагназаваць уласнае шанцаванне. Асабліва калі гэтыя прыкметы – шчаслівыя. З імі (як было прыкмечана яшчэ ў далёкія часы) шчасце можа доўжыцца хоць увесь год.

# Шчасце – круглы год

Хтосьці верыць, што лічба "трынаццаць" абсалютна нешчаслівая, ці ў тое, што калі чорная кошка перабягае дарогу, то трэба 3 разы плюнуць праз левае плячо. А хтосьці ведае: калі бачыш радугу, збудзецца запаветная мара, а калі з неба падае зорка, то трэба паспець загадаць жаданне да таго, як яна пагасне... І няважна, верыце вы гэтым прыкметам на ўсе сто ці пакідаеце ў душы месца для нейкіх сумненняў. Бо калі нават маленькая дробязь парадуе, то настрой паляпшаецца. І ў рэшце рэшт, хто, калі не мы самі, творцы ўласнага лёсу і свайго шчасця?



**Калі свечкі імяніннага торта задзьмуць адным выдыхам, цэлы год будзе шчасце.**

### Дні тыдня

Каб быць у блізкіх адносінах з Удачай, ёсць сэнс прыняць да ўвагі вось такія каштоўныя народныя назіранні. У панядзелак, сераду і пятніцу не варта пачынаць вельмі важныя і сур'ёзныя справы. Не варта таксама ў панядзелак аддаваць даўгі, таму што ўвесь тыдзень пасля гэтага можа быць растратным. Як і панядзелак, пятніца адносіцца да нялёгкіх дзён, а вось аўторак і субота прыносяць радасць і задавальненне. Ёсць яшчэ верная прыкмета, што калі ў чацвер да ўсходу сонца ўмыцца з серабра (можна не шукаць дарагі збан, а ўзяць сярэбраную лыжку і плюхнуць з яе на далонь), то быць чалавеку заўжды здаровым і вельмі прывабным.



**Калі бусел звіў гняздо непадалёк ад твайго дома – будзе ўсім, хто побач, шчасце ў жыцці доўгія сем гадоў!**

### Глядзіце ва ўсе вочы

Самае галоўнае, што трэба рабіць, каб наблізіць да сябе "прыкметнае" шчасце, гэта звяртаць ўвагу на ўсялякія карысныя дробязі. Калі вам па дарозе куды-небудзь трапіцца ржавы цвік, то ведайце, што гэта верная прыкмета на шчасце. Ён ва ўсе часы ратаваў, да прыкладу, прыгажунь ад сурокаў і плётнаў. А таму пазбаўляў ад непрыемнасцяў, якія прыносяць нам злыя языкі. Калі ж цвік будзе не адзін, а ў кампаніі такіх жа іржавых сабратаў, можна папрасіць каго-небудзь прыбіць іх крыж-накрыж перад дзвярыма ў дом – гэты спосаб, дарэчы, падыходзіць больш для тых, хто жыве на ўлонні прыроды. І з таго часу, калі ржавыя цвікі ўпрыгожаць дзверы, непаразуменні і непрыемнасці знікнуць з любоўных адносінаў.

Тое ж самае адносіцца і да старых іржавых ключоў. Калі іх выпадкова знайсці – гэта выдатная прыкмета, якая абяцае шчасце.

Калі дзяўчына хоча, каб у яе былі прыгожыя валасы і каб яны прыцягвалі ўвагу, трэба папрасіць кагосьці з родных падарыць ёй на імяніны драўляны грэбень (дарэчы, такія, розных відаў і формаў, прадаюцца цяпер). І можна быць абсалютна перакананым, што валасы стануць сапраўды цудоўнымі. Варта мець на ўвазе і тое, што грэбень, які падарылі на вяселле, зробіць сямейнае жыццё бязвоблачным. Такая пара можа стаць адной з самых шчаслівых сямейных пар на свеце!

Дарэчы, калі ў дзяўчыны сумненні наконт замужжа, а прыйшла пара, то трэба назаўсёды адвучыць сябе ад звычкі ставіць толькі што зняты абутак наскамі ў розныя бакі. І тады з замужжам у бліжэйшы час праблем не будзе. Прыкмета верная!

Ёсць некалькі прыкмет, якія адназначна прынясуць багацце. Напрыклад, умыцца дажджавой вадой, калі на палец надзеты залаты пярсцёнак. Фігурка кошачкі з паднятай левай лапкай (такія прадаюцца ў нашых магазінах, якія гандлююць сувенірамі з усходніх экзатычных краінаў) – да багацця. Такую фігурку дораць дарагім людзям і тым, каму жадаюць радасці і дастатку. Фігурка ж тыгра абяцае ўладальніку поспех у каханні!



**Розныя званочкі адпуджваюць злых духаў – іх калекцыю можна трымаць дома.**

### Няма дрэннага надвор'я

Напрыклад, адпраўляцца ў дарогу ў дождж ці нават у страшэнны лівень – на шчасце і ўдачу. А яшчэ першым (толькі сапраўдным, майскім!) вясеннім дажджом можна злёгку змачыць галаву, каб валасы заўжды раслі густа і пышна, як трава ў гэтым месяцы.

Дождж, які абрынуўся на вясельны картэж, вельмі шчаслівая прыкмета, якая абяцае і шмат усяго прыемнага.

Зорка, якая падае з неба, — знак таго, што трэба паспець загадаць жаданне і яшчэ пры гэтым сказаць слова "знаю", тады яно абавязкова збудзецца. Ну, а калі глядзець на зорнае неба, то вочы будуць вельмі зоркія.

Калі бусел звіў гняздо непадалёк ад твайго дома – будзе ўсім, хто побач, шчасце ў жыцці доўгія сем гадоў! А вось калі ты забіў ката, то табе доўгія сем гадоў не будзе шанцаваць ні ў чым.

Моцным чараўнічым сродкам з'яўляецца канюшына. Калі яе падарыць каханаму чалавеку, то ён у адказ закахаецца ў вас на ўсё жыццё. Наогул гэта расліна надзейна ахоўвае любоўныя адносіны – не выпадкова існуюць нават упрыгожванні і падвескі ў форме чарыхпялёсткавай канюшыны.

### Прыемныя дробязі

Розныя званочкі адпуджваюць злых духаў – іх калекцыю можна трымаць дома. А калі якім-небудзь пазвініць з раніцы, дзень будзе цудоўным.

Калі свечкі імяніннага торта задзьмуць адным выдыхам, цэлы год будзе шчасце.

Калі губы свярбяць – будзеш есці ласункі ці саладка цалавацца.

**Проста МАРЫЯ.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Ці верыце вы ў прыкметы, варажбу?



**Уладзімір Пракаповіч, вадзіцель:**

— Не. І нічога не баюся. Праўда, на ўсялякі выпадак трымаю дулю ў кішэні. Тады абавязкова ўсё атрымліваецца. Увогуле прыкметы чалавек сам сабе надумвае.



**Яўген Сіняўскі, юрыст:**

— Веру. Калі чорны кот дарогу пераходзіць ці чалавек з пустым вядром , заўсёды прапускаю каго-небудзь наперад. Так спакайней і весялей. Спрабаваў і сам «перасякаць» «чорную» рысу – здаецца, усё добра было. Лічба 13 на мяне не ўздзейнічае. Вось сямёрка — іншая справа. Яна — шчаслівая.



**Вадзім Рамановіч, навучэнец:**

— Мабыць, не веру. Прыкметы не дзейнічаюць на мяне. У Настрадамуса і Глобу таксама не веру. Вось у варажбу на картах — так. Аднойчы захацеў магнітафон, мне наваражылі, што будзе. І спраўдзілася. Людзі вераць у прыкметы, прадказанні ці варажбу, бо ім так хочацца. Але запамінаюць толькі добрае.



**Ганна Захаркевіч, медык:**

— Веру. Я ва ўсё веру. Напрыклад, на сваё вяселле мне паклалі ў туфлі рабінавыя лісты і абкалолі падол сукенкі шпількамі — дапамагае ад сурокаў. Верыць у прыкметы гэта ўдзел жанчын, а таксама эмацыянальных і ўспрымальных людзей.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# У калядны вечарок дзеўкі варажылі

**З усіх свят самымі вясёлымі ў нашых продкаў былі Каляды, у якіх перамяшаліся паганскія напластаванні з хрысціянствам. Побач з калядаваннем варажба некалі займала важнае месца ў гэтых зімовых святах.**

Варажылі найперш дзяўчаты. Кожная марыла (ды і марыць) удала выйсці замуж і, вядома ж, хацелася наперад ведаць, калі гэта будзе і з кім давядзецца жыць.

У наш час на ўсё гэта можна глядзець з усмешкай, хаця і даўней дарослыя, асабліва мужчыны, адносіліся да варажбы з пэўнай доляй іроніі. Маўляў, няхай дзяўчына пазабаўляецца, пафантазіруе.

Многа ёсць спосабаў паваражыць, але, бадай, самай таямнічай з'яўляецца варажба з люстэркамі.

Аднойчы і са мной адбыўся дзіўны выпадак. Было гэта яшчэ ў студэнцкія гады, на 1-м курсе. Вырашылі мы з сяброўкамі ў калядны вечарок паваражыць. Для гэтага загадзя падрыхтаваліся: купілі свечкі ў царкве, папрасілі заручальны пярсцёнак у знаёмай жанчыны, шлюб якой быў таксама асвечаны ў царкве.

І вось каля 12 гадзін ночы наша дзейства пачалося. Заходзілі па чарзе. Надышла мая. У асобным пакоі на стале стаяла люстэрка, перад якім у шклянцы з вадой ляжаў пярсцёнак, побач гарэлі дзве свечкі. Садзіцца трэба было так, каб сябе не бачыць у люстэрку. І вось я сяджу, успамінаю Святлану з балады В.А. Жукоўскага "Святлана", як яна доўга сядзела і вельмі хацела ўбачыць суджанага. Часу прайшло шмат, гадзіны 2. І вось я бачу: з'яўляецца ў люстэрку стол, які завалены вялікімі лістамі паперы, за сталом, адкінуўшыся ў крэсле, сядзіць мужчына, які мне не вельмі падабаецца, хаця бачу яго толькі ў профіль.

І тут на мяне находзіць страх. Я выбягаю з пакоя. Дзяўчаты казалі, што ў мяне валасы дуба ўсталі. Яны такога ніколі не бачылі. На апошнім курсе інстытута я выйшла замуж за хлопца. Ён тады быў студэнтам тэхнічнай ВНУ. Як часта я бачыла яго ў такой позе за сталом, калі ён чарціў свае курсавыя. Так што ў гэтым нешта ёсць.

Але з таго часу я ніколі больш не варажу. А яшчэ памятаю адну прытчу: "Бог вылепіў з гліны чалавека і ў яго застаўся невялікі камячок. Бог і пытаецца ў яго, што б яшчэ ён хацеў для сябе вылепіць. "Шчасця хачу", — папрасіў чалавек. Нічога не сказаў яму Бог, а толькі паклаў кавалачак гэтай гліны яму ў далонь.

Сон таксама мог дапамагчы ў варажбе. Для гэтага перад сном дзяўчына ставіла пад ложак шклянку з вадой і клала зверху трэсачку, па якой у сне і павінны прыйсці суджаны.

А вось яшчэ гісторыя, якую расказала мне адна жанчына. Яна ў сне ўбачыла дзядзьку з другога канца вёскі. Тады з яе пасмяяліся, бо для дзяўчат, якім не было яшчэ і дваццаці, саракагадовы жанаты мужчына здаваўся дужа старым. Але дзяўчына "засядзелася" ў дзеўках, а дзядзька той у пяцьдзесят стаў удаўцом. І тут высветлілася, што той сон у калядную ноч стаў прарочы: удавец прыслаў да дзяўчыны сватоў. Некалі лічылі, калі дзяўчына да 22-23 не выйшла замуж, то ўжо "старая", а калі ўжо "стукнула" трыццаць – выйсці за хлопца замуж шансаў не было – можна было застацца векавухай альбо ісці за ўдаўца. Ва ўсялякім разе выбіраць не прыходзілася.

**Алена УРБАНОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПРАБЛЕМА

# Шлях ФК «Маладзечна-2000»

**Футбалісты ад сваёй працы ў снежні адпачываюць, а вось у адказных кіраўнікоў такога права няма, асабліва ў тым выпадку, калі існуюць значныя праблемы пры арганізацыі клубнага футбольнага жыцця.**



Што зрабіць з маладзечанскім футболам, каб не сядзець, павесіўшы нос?

Футбол — вельмі своеасаблівая сфера дзейнасці. Паўсюль, дзе яго развіваюць, імкнуцца не адстаць у вечнай гонцы за перамогамі – ад хутка прагрэсіруючых усходнеазіяцкіх краін да традыцыйных заходнееўрапейскіх цэнтраў – у спорце нумар адзін "круцяцца" значныя фінансавыя сродкі. Беларусь не можа быць выключэннем. Іншая справа, што ў нашай краіне, як і ў многіх іншых на пастсавецкай прасторы, пакуль не створана сістэма, якая б забяспечвала празрыстасць грашовых патокаў, пры якой не ўзнікала б патрэбы ў існаванні так званага "чорнага нала". Такім чынам, пры існуючым парадку справаў вялікае значэнне набываюць маральныя якасці футбольных дзеячаў. Балельшчыкі "знізу", а ўлады "зверху" павінны жорстка патрабаваць ад іх не толькі прафесіяналізму, але і прыстойнасці.

## Афіцыйныя грошы

У нашым рэгіёне футбольнае фінансаванне ажыццяўляецца з бюджэтных сродкаў, гэта значыць, са сродкаў усіх нас – падаткаплацельшчыкаў. У мінулым годзе ФК "Маладзечна-2000" за першы круг атрымаў з гарадскога бюджэту каля 127 мільёнаў рублей, за другі круг – каля 42 мільёнаў ад спонсараў згодна з прэзідэнцкім ўказам аб ільготным падаткаабкладанні. Да таго ж яшчэ засталіся даўгі, у тым ліку па зарплаце перад футбалістамі, – прыкладна на 14 мільёнаў.

Генеральны дырэктар клуба Пётр Кухальскі паведаміў, што "спонсарскія" размеркаваліся наступным чынам: 24 мільёны ад "Мінскага мэблевага цэнтра" (кіраўнік Барыс Мядзведзеў), 10 мільёнаў ад "Белхола" (кіраўнік Уладзімір Куль), 8 мільёнаў ад "Маладзечнамэблі" (кіраўнік Валерый Бушыла). Акрамя таго, значную дапамогу клубу аказалі прадпрыемствы "Абсалют" (кіраўнік Пётр Калашнікаў), "Крышталь-2" (кіраўнік Алег Рымашэўскі), "Беразінскае" (кіраўнік Станіслаў Кулеш), прыватны прадпрымальнік Аляксандр Драмлюк.

Дарэчы, на клубе пакуль "вісіць" доўг з першага круга перад віцебскім "Лакаматывам" за футбалістаў Косака і Пазняка ў памеры каля 8 мільёнаў. На мінулым тыдні адбылося пасяджэнне дысцыплінарнага камітэта рэспубліканскай федэрацыі, дзе вырашэнне гэтай справы было адкладзена. Наш клуб зрабіў заяўку і прывёў пэўныя доказы, што летам гэтым гульцам нельга было даваць статус свабодных агентаў, і таму цяпер МТЗ-РІПА, куды яны перайшлі, павінен у сваю чаргу заплаціць "Маладзечна-2000".

## Адказныя асобы

Можна гаварыць аб тым, што для ФК "Маладзечна-2000" было выдаткавана сёлета па афіцыйных звестках недзе 183 мільёны рублёў. Тэмай сённяшняга матэрыялу не з'яўляецца абмеркаванне таго, ці маглі б у Маладзечне больш траціцца на футбол. Праблема ў іншым: як з найбольшай эфектыўнасцю выкарыстаць тыя сродкі, якія ёсць у наяўнасці.

Думаецца, прыцягненнем фінансаў з разнастайных крыніц, а таксама распрацоўкай стратэгіі іх выкарыстання павінна займацца праўленне клуба, але гэты орган цяпер даволі аморфны і бяздзейны. Дастаткова сказаць, што з чатырнаццаці яго членаў чацвёра – гэта не мясцовыя бізнесмэны, якія засталіся тут у спадчыну ад часоў Людаса Румбуціса двухгадовай даўніны. Астатніх дзесяць можна ўмоўна падзяліць на роўныя часткі прадстаўнікоў дзяржаўных і прыватных структур: Яфім Ідэльчык (першы намеснік старшыні гарвыканкама), Мікалай Шрымф (загадчык аддзела ФКСіТ пры гарвыканкаме), Анатоль Езубчык (дырэктар ДЮСШ), Альберт Дабранскі (начальнік інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне), Сяргей Сарычаў (дэпутат гарсавета, дырэктар МЭСа), Барыс Мядзведзеў, Уладзімір Куль, Валерый Бушыла, Мікалай Каржоў (кіраўнік кандытарскай кампаніі), Юрый Лукін (прадстаўнік азербайджанскай дыяспары).

Найбольшую адказнасць за лёс клуба ў дадзены момант нясуць двое з вышэйпералічаных асоб. Гэта Альберт Дабранскі, які з'яўляецца старшынёй праўлення, і Мікалай Шрымф, у функцыі якога ўваходзіць кантроль за расходаваннем бюджэтных сродкаў.

## Як жыць далей?

Трэба ясна бачыць перад сабой перспектыву, звышзадачу. Яна заключаецца ў тым, што маладзечанскі футбольны клуб абавязаны стабільна гуляць у вышэйшай лізе прынамсі тады, калі там выступаюць 16 каманд. Інакш у горадзе стануць зусім непатрэбнымі на іх цяперашнім высокім узроўні ДЮСШ, дзе падрыхтаваныя некалькі кандыдатаў у зборную краіны, і стадыён з яго базай, не горшай за многія ў вышэйшай лізе.

Нармальная з'ява – гэта калі пяцітысячныя трыбуны запаўняюцца больш чым напалову, калі з кожнага матча робіцца сапраўднае свята.

Надзённая справа, бліжэйшая задача – нармалізацыя мікраклімату ў камандзе. Зразумела, зусім няпроста ажыццявіць на справе ідэальную сітуацыю, калі футбалісты паважліва ставяцца да трэнераў, трэнеры вераць клубнаму начальству, клубнае начальства нясе поўную адказнасць перад балельшчыкамі за выступленне каманды, а ў выніку балельшчыкі радуюцца футболу.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, УШАНАВАННЕ

# З марамі аб вышэйшай лізе

**СМАРГОНЬ. Каля паўтысячы аматараў футбола сабралася ў пятніцу, 19 снежня, у гарадскім Доме культуры, дзе ўшаноўвалі бронзавых прызёраў чэмпіянату першай лігі з ФК "Смаргонь" і гульцоў СКЗ-ДЮСШ-2, якія занялі ў чэмпіянаце вобласці трэцяе месца.**

Дзяржаўны трэнер па футболу Юрый Мартынаў і прадстаўнік АБФФ Ігар Бялоў уручылі ад рэспубліканскай федэрацыі футбалістам "Смаргоні" жэтоны і дыпломы, усёй камандзе – дыплом трэцяй ступені і памятны вымпел. Старшыня райвыканкама Станіслаў Юргель і члены савета клуба Віктар Свіла і Мікалай Кіндра атрымалі памятныя медалі і граматы за асабісты ўклад у развіццё беларускага футбола і паспяховае выступленне каманды.

Потым з вітальнымі словамі і падарункамі на сцэну выходзілі Станіслаў Юргель (каштоўныя прызы кожнаму футбалісту і трэнеру), старшыня абласной федэрацыі Франц Ляцяга (набор мячоў для каманды), выхаванцы дзіцячага садка №6 (вершыкі, прысвечаныя камандзе і асобным гульцам), дырэктар СКЗ Міхаіл Чуковіч (прыз лепшаму абаронцу Андрэю Сінічыну), прадстаўнікі "Смаргоньнафтапрадукта" (прыз галоўнаму трэнеру Уладзіміру Уткіну) і мясцовага лясгаса (прыз лепшаму паўабаронцу Вадзіму Тарасаву).

Прысутныя паглядзелі відэафільм, створаны з лепшых, у першую чаргу галявых, урыўкаў сёлетніх матчаў. Напрыканцы яго стваральнікі прадставілі ўсіх футбалістаў і пажадалі ім выйсці ў вышэйшую лігу.

Потым каманду віншавалі прадстаўнікі фан-клуба, са словам у адказ выступіў віцэ-капітан Валерый Курак. Загадчык аддзела ФКСіТ Мікалай Фастаў падарыў старшыні гарвыканкама сімвалічную бутсу на падстаўцы.

Нарэшце на сцэну былі запрошаны гульцы і трэнеры "абласной" каманды, якія атрымалі свае жэтоны, грамату і прыз. Завяршаў афіцыйны вечар канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Мікіта ЛІСТАПАД.

■ БАСКЕТБОЛ

# Пераможцы з Валожына

**Чацвёрты год запар валожынскія жанчыны пад кіраўніцтвам Аляксандра Кавязы заваявалі перамогу ў чэмпіянаце Мінскай вобласці. А вось маладзечанскія мужчыны склалі свае паўнамоцтвы, заняўшы трэцяе месца. Абодва фінальныя турніры прайшлі ў Салігорску 19-21 снежня. Спачатку каманды былі разбіты на дзве групы, адкуль па двое лепшых выходзілі ў рашаючую "пульку".**

Валожынкі перамаглі ў групе Вілейскі раён і Барысаў, а Слуцк на матч не прыехаў. На заключным этапе не пакінулі шансаў Нясвіжскаму раёну 62:39 і Салігорску 69:52. За каманду выступалі Марыя Жывіцкая, Вольга Купцэвіч, Інга Малашкевіч, Ала Садоўская, Іна Балабан (стартавая пяцёрка), Кацярына Пятровіч, Марыя Тарнавіцкая, Кацярына Епанчынцава, Людміла Лысенка. За першае месца на ўвесь калектыў атрымалі грашовую ўзнагароду ў памеры 250 тысяч рублёў.

Віляйчанкі ў групе перамаглі Слуцк і саступілі Барысаву і Валожынскаму раёну. У "пульцы" за 5-8 месцы перамаглі Барысаўскі раён і, улічваючы нез'яўленне з-за недахопу сродкаў каманды з Маладзечна, занялі выніковае пятае месца. Лепшыя – Таццяна Газізава і Вольга Несцяронак, кіраўнік – Наталля Стаўская.

У спаборніцтве мужчын маладзечанцы ў групе на ўпартай барацьбе перамаглі Нясвіжскі раён і саступілі Салігорску. На заключным этапе прайгралі Барысаву, а ў сустрэчы, якая вырашала лёс трэцяга месца, былі мацнейшымі за Вілейскі раён. Лепшы ў складзе – Сяргей Грачанік, трэнер – Леанід Казлоў.

Вілейчане ў групе пераўзышлі Слуцк, а Барысаў не адолелі. На заключным этапе, як няцяжка здагадацца, саступілі Салігорску і Маладзечну, замкнуўшы чацвёрку мацнейшых. Лепшыя – Руслан Тарабаеў і Юрый Абрамаў, кіраўнік – Аляксандр Шэры.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

## Табло

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. Фінальны рэспубліканскі турнір сярод цэнтраў фізкультурна-аздараўленчай работы прайшоў у Наваполадску. Маладзечанцы перамаглі ў групе брэстаўчан 8:2, гродзенцаў 6:2 і ў фінале магілёўчан 3:2.**

Ход фіналу – 1:0, 1:2, 3:2. Вырашальны гол забіў Грыхуцік. Склад: варатар Мароз, палявыя Грыхуцік, Дакурна, Казяк (кіраўнік каманды), Невядомскі, Півавар, Татун.

■ БАСКЕТБОЛ

**СМАРГОНЬ. Выхаванцы Вольгі Савоські 1989 г.н. са СДЮШАР правялі тур дзіцячай лігі ў Магілёве 15-18 снежня. Перамаглі ГАСДЮШАР (Гомель), СДЮШАР-5 (Магілёў), БМЗ (Жлобін), саступілі "Мэджык-Баскет" (Мінск).**

Лепшым снайперам тура стаў Дзяніс Давыдаў, на рахунку якога 112 ачкоў, прычым ён здзейсніў 12 трохачковых кідкоў. Таксама добра сябе праявілі Дзяніс Баброўскі і Яўген Садоўскі.

Пасля двух тураў смаргонцы маюць 4 перамогі і 3 паражэнні. Каб атрымаць права змагацца за 1-4 месцы, на апошнім туры ў сакавіку ў Віцебску прайграваць будзе нельга.

**Фінальны абласны турнір Алімпійскіх дзён моладзі сярод хлопцаў 1987-88 г.н. Барысаў.**

1.Барысаў. 2.Валожынскі раён. 3.Маладзечна. 4.Слуцк.

Валожынскі раён – лепшыя Аляксандр Бекіш (СШ№2), Дзмітрый Сікорскі (гімназія) і Іван Янкоўскі (гімназія), кіраўнік Леанід Хвядчэня.

Маладзечна – лепшыя Дзяніс Кірспу (СШ№14) і Таір Алахвердыеў (гімназія №6), кіраўнікі Анатоль Яфімаў і Уладзімір Кляміцыч.

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

**МАЛАДЗЕЧНА. Каманда ДЮСШ заваявала чацвёртае месца на рэспубліканскай спартакіядзе спартыўных школ, якая адбылася 18-20 снежня ў Стайках.**

У асобных катэгорыях двума першымі месцамі вызначыліся выхаванцы бацькі і сына Антона і Дзяніса Найлаўцоў: Яўген Туровіч (32 кг) і Яўген Колесень (73 кг). Трэцім стаў Дзмітрый Радзевіч (53 кг, трэнер Віктар Вянглоўскі).

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**АСТРАВЕЦ. Першынство Гродзенскай вобласці сярод дзяцей 1990 г.н. і меншых прайшло ў Слоніме. Еэдзілі пяцёра выхаванцаў ДЮСШ і занялі другое месца сярод семнаццаці калектываў.**

Алеся Блашковіч выйграла скачкі ў вышыню, скачкі ў даўжыню і бег на 60 м з бар'ерамі. Павел Бразовіч стаў другім у кіданні дыску. Іх трэнер Андрэй Блашковіч.

Андрэй Палтаран стаў другім у хадзьбе на 2 км. Вадзім Махневіч стаў трэцім у штурханні ядра. Іх трэнер Анатоль Шаўчэнка.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

# ВІНШАВАНКІ

**Супрацоўнікаў "Рэгіянальнай газеты"** віншую з Новым годам. Жадаю творчага натхнення. *Валянцін Цішко.*

**Супрацоўнікаў "Рэгіянальнай газеты"** віншую з Новым годам! Шчасця вам, кахання і поспехаў у творчай працы! *Пастаянная чытачка Дурко Нэла.*

**Маладзечанскае аддзяленне ГА "ХСДМ"** віншуе ўсіх з Новым 2004 годам!!!

**Зінаіду Сяргееўну і Валерыя Браніслававіча Трацякоў** віншуем з Калядамі і Новым годам! Бацькі, сямейнага дабрабыту і здароўя вам. *Уладзімір і Валянціна.*

**Таісію Яўстаф'еўну Трацяк** віншуем з Калядамі і Новым годам! Любая бабуля, моцнага здароўя табе і Божага благаслаўлення. *Унукі.*

**Сям'ю Цішко** віншую з Новым годам. Жадаю шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту. *Валянцін.*

**Сям'ю Бандаронак** з Новым годам. Жадаю шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту. *Валянцін Цішко.*

**Марыну Валянцінаўну Чаўлытку** віншую з Новым годам. Жадаю шчасця і здароўя. *Валянцін Цішко.*

**Наталлю Віктараўну Шульжыцкую** віншую з Новым годам. Жадаю паслухмяных вучняў і шчасця ў жыцці. *Валянцін Цішко.*

**Анастасію Нарэйку** віншую з Новым годам. Жадаю добра вучыцца і паступіць у БДУ. *Валянцін Цішко.*

**Увесь персанал ЦПР** віншую з Новым годам! Жадаю шчасця, здароўя і прыемнай працы. *Валянцін Цішко.*

**Гурток "Юны журналіст"** віншую з Новым годам. Жадаю поспехаў у дзейнасці. *Валянцін Цішко.*

**Наталлю Цярэшку** віншуем з Новым 2004 годам!!! Сонейка, ты ў нас самая лепшая і мы цябе вельмі любім! *Ад сяброў.*

**Віталя**! Віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў, кахання, удачы. *Кацярына.*

**Вольга**! Віншую цябе з днём нараджэння і Новым годам! Жадаю поспехаў, кахання і здароўя. *Кацярына.*

**Лізачку Жаўток** віншую з надыходзячым Новым годам! Жадаю моцнага здароўя, расці прыгожай. *Кацярына.*

**Лену і Вову Міцько** віншую з надыходзячым Новым годам! Жадаю сямейнага дабрабыту і моцнага кахання. *Кацярына.*

**Сваіх родных** віншую з Новым годам! Жадаю моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў. *Кацярына.*

**Сваю бабульку** віншую з Ражством Хрыстовым. Жадаю моцнага здароўя, Божага блаславення, анёла-ахоўніка. *Кацярына.*

**Ігара Браніслававіча Трацяка**, любага хроснага, віншую з Калядамі і Новым годам! Светлых сонечных дзён Вам і добрага настрою. *Валянціна.*

**Георгія і Аляксандра Кулакоў** з в. Пытань Валожынскага раёна віншую з Новым годам і Калядамі! Здароўя, дабрабыту і радасці вам. *Марыя.*

**Анатоля Васільевіча Мікіцкага** з Мінска шчыра віншуем з 55-годдзем! Жыві сто год без бед. Здароўя моцнага табе. *Родныя.*

**Паважаныя акцыянеры і кліенты Маладзечанскага аддзялення ААТ "Белаграпрамбанк"!**

Кіраўніцтва і калектыў аддзялення **горача і сардэчна віншуе вас з Новым 2004 годам і Калядамі!** Ад усёй душы жадаем моцнага здароўя, удачы ў дзелавых і асабістых адносінах, поспехаў у дасягненні намечанага, сямейнага дабрабыту, дастатку кожнаму дому, шчасця, згоды і кахання кожнай сям'і! **Няхай Новы год прынясе стабільнасць і ўпэўненасць у заўтрашнім дні, здзяйсненне ўсіх надзей і жаданняў.**




**Ірыну Аляксееўну Лукшу** з Маладзечна віншую з днём нараджэння, Новым годам і Калядамі. Жадаю здароўя, шчасця і шанцавання. *Маша.*

**Лену Сівак** з Маладзечна і дачку **Наташу** віншую з Новым годам і Калядамі. Няхай у душы заўжды будзе светла і радасна. *Маша.*

**Веру і Юру Карповічаў** з Маладзечна, іх сыноў віншую з Калядамі і Новым годам. Жадаю здароўя, шчасця, усіх зямных даброт. *Берасневa.*

**Ганну Восіпаўну і Фёдара Уладзіміравіча Барэйкаў** з в. Рабінавае віншуем з Новым годам. Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту. *Дзеці і ўнукі.*

**Дзіма, Галя і Насцечка Барэйкі**! Віншуем з Новым годам і жадаем добрага здароўя, сямейнага дабрабыту і шчасця! *Нэла, Толя, дзеці.*

**Веру Васільеўну Янкоўскую** і ўсіх сваіх настаўнікаў віншуем з Новым годам! Жадаем Вам поспехаў у працы і здароўя! *3 "Е" клас, гімназія-каледж.*

**Людмілу Аляксандраўну Кабан** і ўсіх сваіх настаўнікаў віншуем з Новым годам! Здароўя вам, поспехаў і добрага настрою. *8 "А" клас, СШ №12.*

**Сяброўак па працы** віншую з Новым годам! Жадаю здароўя, кахання, дабрабыту, добрага настрою і шчасця! *Нэла Дурко.*

**Лену Кушаль, Святлану Івашкевіч** і іх сем'і віншую з Новым годам! Шчасця вам, кахання, вясёлага настрою і здароўя! *Нэла.*

**Софію Феафанаўну Тышкоўскую**, мілую бабулечку, з в. Паняцічы віншуем з днём нараджэння. Здароўя і шчасця! *Жэня і Рома.*

**Софію Феафанаўну Тышкоўскую**, мілую мамачку, віншуем з юбілеем. Жадаем здароўя і доўгіх год жыцця. *Дзеці.*

**Сям'ю Мацюшовых** з Вілейкі віншую з Новым годам! Жадаю шчасця, здароўя, удачы, радасці. *Сын Сяргей.*

**Таццяну Шарафановіч** з Вілейкі віншую з Новым годам! Жадаю кахання, моцнага здароўя, шчырых усмешак і поспехаў на працы! *Сяргей.*

**Вадзіма і Кацярыну** віншую з Новым годам! Жадаю здароўя, кахання, удачы, а таксама не сварыцца, згуляць васелле і разумець адзін аднаго. *Сяргей.*

**Вадзіма Пасеку** віншуем з днём нараджэння і Новым годам! Жадаем здароўя, шчасця, удачы і поспехаў. *Бацькі і брат.*

**Сяргея Уладзіміравіча Аляхновіча** віншуем з днём нараджэння!!! Жадаем поспехаў і росквіту! *Сябры з МА ГА "ХСДМ".*

Мой любы **Юра Шынгель**! Віншую з Ражством Хрыстовым і Новым годам! *Твая Наталля з Мінска.*

**Сяргея, Алесю і Ксюшу Карніловічаў** віншуем з Новым годам! Здароўя, доўгага жыцця, усіх зямных даброт вам. *Хросная Іра і яе сям'я.*

**Сушко Марыю** з в. Цюрлі віншуем з Новым годам! Жадаем дабрабыту, удачы, усмешак, весялосці і ўдачы. *Ірына, Мікалай Бондары.*

**Сям'ю Тамары Пятроўскай** з Вілейкі віншуем з Новым годам! Доўгага жыцця, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Ірына і Мікалай Бондары.*

**Анатоля і Тамару Шылаў**, а таксама іх дзяцей віншуем з Новым годам. Моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту. *Ірына і Мікалай Бондары.*

**Мікалай Васільевіч Бондар**, віншуем Вас з Новым годам. Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, шчасця. *Ірына і Мікалай.*

**Ганну Васільеўну Міхалевіч** віншуем з Новым годам! Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту. *Ірына і Мікалай.*

**Сям'ю Аляксандра і Таццяны Бондараў** віншуем з Новым годам! Дабрабыту, кахання, шчасця, здароўя і доўгіх год жыцця. *Ірына і Мікалай.*

**Сям'ю Фёдара і Тамары Нашчынцоў** віншуем з Новым годам! Доўгага жыцця, здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця. *Ірына і Мікалай.*

**Лілію і Уладзіміра Мейсакаў** з в. Турэц-Баяры віншуем з Новым годам! Шчасця, дабрабыту, кахання, узаемаразумення. *З павагай Бондар з в. Насілава.*

**Тамару і Ігара Захаравых**, а таксама іх сыноў віншуем з Новым годам! Шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту. *Сям'я Бондар з в. Насілава.*

**Валянціну Рыгораўну Захарэвіч** з в. Ілья віншую з Новым годам! Усіх зямных даброт Вам. *З павагай мама былога студэнта Сашы Цупа.*

**Таццяну Садоўскую** з Валожына віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, Божага блаславення, поспехаў. *Лена і Валодзя.*

**Юлію Баляславаўну Чудакову** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя і сямейнага дабрабыту. *З любоўю муж, сыны, сям'я Baроўскіх.*

## ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Шчодрым навагоднім вечарам

**Нашы продкі толькі так яго і называлі: добрым і шчодрым. Новы год не абыходзіўся без калядак – шумных, вясёлых віншаванняў суседзяў са святам, а гаспадыні адорвалі калядоўшчыкаў за жарты, прыпеўкі і добрыя пажаданні пернікамі, булачкамі, крэндзелямі, прычым яны былі спецыяльна зробленыя ў форме жывёл: свіней, казуль, каровак, ягнят і авечак...**

Па старадаўнім павер'і мноства яды ў гэты дзень забяспечвала дабрабыт на ўвесь год. Так што навагодняму святочнаму сталу ўдзялялася асобая ўвага. Канешне, ва ўсіх народаў склаліся свае застольныя звычаі. У тых, хто займаўся земляробствам – рускіх, украінцаў, беларусаў, малдаван, — рытуальнай навагодняй стравай лічылася салодкая каша – куцця, бліны. Гэтыя сімвалічныя пачастункі – успаміны аб ахвярапрынашэнні язычным багам. На Новы год падавалі многа мясных, крупяных і мучных страў, варылі кампоты-ўзвары.

Даўно змяніўся наш быт, умовы жыцця, але гэта не азначае, што мы можам абязлічыць нашы святочныя застоллі, забыць звычаі продкаў. Канешне, няма сэнсу адмаўляцца ад новых прадуктаў і прыпраў, якіх нашы бабулі і дзядулі не ведалі. І ўсё ж у навагодняга стала павінны быць свае прыкметы.

Прапаную вам некалькі сучасных святочных страў, якія максімальна набліжаны да традыцыйных старадаўніх.

### Гусь з апельсінамі

Гусь (качка), зялёныя яблыкі (лепш антонаўка), 3 апельсіны, сушаныя абрыкосы, чарнасліў, грэцкія арэхі, цыбуліна.

Тушку птушкі добра вымыць і абсушыць. Унутры і звонку пасаліць, паперчыць, пасыпаць салодкім чырвоным перцам-папрыкай, унутры нацерці часнаком. Падрыхтаваць начынку: ачышчаны і парэзаны на кавалачкі яблык змяшаць з арэхамі, чарнаслівам, абрыкосамі, ачышчанымі і парэзанымі кавалачкамі апельсіна. Начынку пакласці ў сярэдзіну тушкі і зашыць адтуліну ніткай ці закалоць драўлянымі палачкамі, каб скура не разыходзілася і сок ад фруктаў не выцякаў. Зашытую тушку абмазаць з усіх бакоў алеем, калі хочаце, каб скура была румяная і хрумсткая, не "варанай", і пакласці ў глыбокую бляху ці качачніцу. Побач пакласці цэлыя ці папалам парэзаныя яблыкі ў лупінах і ачышчаную і разрэзаную на чатыры часткі цыбуліну. Закрыць качачніцу накрыўкай ці бляху шчыльна фальгой і паставіць прыкладна на 3 гадзіны на сярэдні агонь ў духоўку, паліваць праз кожныя паўгадзіны тлушчам, што выцякае з птушкі. Апошнія 15-20 хвілін зняць накрыўку, выліць тлушч, які застаўся, і паліць гуся (качку) сокам апельсіна і падрумяніць у духоўцы без накрыўкі. Падаваць на вялікім блюдзе, папярэдне пасыпаць зелянінай, абкласці тушанымі яблыкамі і кружочкамі свежага апельсіна.

### Свіны кумпяк

Мякаць свініны ачысціце ад лішкаў тлушчу, а які застаўся парэжце ромбікамі. Натрыце свініну соллю, часнаком, пасыпце перцам і смажце ў духоўцы, час ад часу паліваючы сокам і тлушчам.

Гатовае мяса нарэжце на порцыі, пакладзіце на вялікую талерку ў выглядзе цэлага кавалка, а па баках пакладзіце смажаную бульбу, тушаную капусту, мочаныя яблыкі, салёныя агуркі і г.д.

### Чарнасліў у шакаладзе

Прысмакі на святочным стале павінны быць абавязкова. Чарнасліў памыйце і апарце, выдаліце костачкі. Шакалад наламайце кавалачкамі, дадайце трошкі вады і растапіце на слабым агні. Кожную чарнаслівіну наколвайце на відэлец і апускайце ў шакалад, а пасля кладзіце на паперу для застывання.

### Карысныя парады

● Салат ці вінегрэт пакладзіце на круглае блюда, а вакол – 12 кружкоў варанай бульбы. Моркву нарэжце саломкай і на кожным бульбяным кружку выкладзіце лічбы: I, II, II, III, IV... XII. У сярэдзіну пакладзіце кружок з агурка ці памідора, а з цыбулі – стрэлкі... гадзіннікаў. І няхай яны ў вас паказваюць без пяці хвілін 12.

● А гэта можа уразіць гасцей: пакладзіце на металічнае блюда бананы, заліце іх спіртам і падпаліце. А можна прапанаваць гасцям, якія толькі ўвайшлі з марозу, кубак з пуншам, ахоплены полымем.

**Проста МАРЫЯ.**

## ІМЯНІНЫ

26 снежня
**Праваслаўныя**: Аркадзя, Арсеня, Нікадзіма.
**Каталіцкія**: Дзіяніза, Сцяпана.
27 снежня
**Праваслаўныя**: Апалонія, Калініка, Філімона.
**Каталіцкія**: Максіма, Цэзара, Яна.
28 снежня
**Праваслаўныя**: Паўла, Сцяпана, Трыфана.
**Каталіцкія**: Антона, Цэзара.
29 снежня
**Праваслаўныя**: Феафаніі, Агея.
**Каталіцкія**: Тамаша.
30 снежня
**Праваслаўныя**: Антона, Данілы, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Севера, Яўгена.

## Кінатэатр «Радзіма»

**26-28 снежня. "Ну, ты і прыдурак"**, ЗША, рамантычная камедыя – у 17.00 і 21.00. **"Грамілы"**, ЗША, баявік – у 19.00. 27 і 28 снежня – у 15.00 і 19.00.
**29 снежня - 4 студзеня. "П'янае каханне"**, ЗША, меладрама – у 19.00. **"Джозі і кошачкі"**, ЗША, маладзёжная камедыя – у 17.00 і 21.00.

**Для дзяцей**

**26 снежня. "Абрафакс: пад пірацкім сцягам"**, поўнаметражны мультфільм – у 12.00.
**27 снежня. "Непрыемнасці з малпачкамі"**, ЗША, камедыя – у 12.00.
**28 снежня. "Грынч – выкрадальнік Каляд"**, ЗША, камедыя – у 12.00.
**29 снежня. "Самы каштоўны прымат"**, ЗША, камедыя – у 12.00.
**30 снежня. "Выратавальнікі"**, поўнаметражны мультфільм – у 12.00.
**1 студзеня – "Навагоднія прыгоды Машы і Віці"**, Расія – у 12.00.
Дыскатэка: у пятніцу – з 21.00 да 1.00, у суботу — з 21.00 да 2.00, у нядзелю – з 20.00 да 24.00.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.

## Купон 52

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

## ЗНАЁМСТВЫ

Немалады, добразычлівы мужчына і яго дачка шукаюць жанчыну без дзяцей і шкодных звычак. 222122, Мінская вобл., Барысаўскі р-н, в. Лошніца, а/с 21.

Дзе ты мой адзіны, добры, ласкавы? Цябе шукае сімпатычная, стройная, добрая жанчына 45/167/70. 222410, Вілейка, п/п МС 1219657.

Малады мужчына, 35/170/70, пазнаёміцца з жанчынай 25-35 год для сур'ёзных адносін. Т. у Маладзечне 62052 (пасля 17.00).

## КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне ўсім, хто любіць наш конкурс і ўдзельнічае ў ім. За білетамі ў кіно на гэты раз мы запрашаем Давыда Вараб'ёва, Паўла Трыпуцьку і Паўла Юркевіча, якія хутчэй за іншых справіліся з магічнымі квадратамі. Адказы на мінулае заданне, змешчанае ў нумары за 19 снежня, не друкуем, каб тым, хто не ўдзельнічаў у нашым конкурсе, было над чым паламаць галаву. Паведамляем вам, што наступны выхад "Зарабі білеты ў кіно" будзе ў студзені.

**Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

## ВІКТАРЫНА

# «Мая Беларусь-2»

Шаноўныя ўдзельнікі віктарыны "Мая Беларусь – 2". Па віне рэдакцыі ў мінулым нумары газеты былі загадзя надрукаваныя адказы на пытанні трэцяга тура. Па гэтай прычыне многія ўдзельнікі не паспелі даслаць свае адказы. Спецыяльна для іх у наступным нумары будуць надрукаваныя пытанні дадатковага тура. Удзельнікам, што даслалі лісты ў рэдакцыю, адказы будуць залічаныя, але і яны, пры жаданні, могуць прыняць удзел у дадатковым туры.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

